



# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

13 лістапада 2020 года №46 (1333) 18+




# Віляйчанка: «У патасоўцы з АМАПам мяне прыцiснулi да машыны і зламалі рабро»



старонка 18

Студэнцтва віляйчанкі Анастасіі Вайтовіч скончылася праз два месяцы пасля паступлення.

Фота забяспечанае аўтарам.

**Гродзенскі абласны суд адмяніў апраўдальны прыгавор смаргонскага суддзі. Справу мясцовага актывіста будуць разглядаць чацвёрты раз**

старонка 18



**Смаргонка не згуляе ў кваліфікацыі чэмпіянату Еўропы па баскетболе праз COVID-19**

старонка 22


ISSN 1991–7155
9 771991 715006 20046


Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by

## Аляксей Бераснеў



**Раптоўна памёр былы наш калега – тэхнічны рэдактар «Рэгіянальнай газеты» Аляксей Бераснеў. Сэрца перастала біцца ў сорак два гады. Нічога не прадказвала гэтай бяды.**

Больш за пяць гадоў аддаў нашаму выданню Аляксей. Выпускнік маладзечанскай мастацкай школы, якую ў свой час арганізаваў Васіль Таркан, меў добрае пачуццё гармоніі і прыгажосці. І, ужо пабачыўшы свет, маючы жыццёвы досвед, вышэйшую адукацыю перакладчыка, прыйшоў у «Рэгіянальную газету», каб праз кароткі час працягнуць традыцыі, закладзеныя яго папярэднікамі. У 2008 годзе сайт газеты атрымаў дыплом інстытута FOJO, Швецыя, за найлепшы рэдызайн сайта. Тут была вялізная заслуга тэхнічнага рэдактара.

Змяняўся выгляд папяровага выдання, усё больш навін нашы чытачы атрымлівалі з сайта. І ўсюды прыкладаў сваю руку Аляксей Бераснеў, працуючы ў зладжанай камандзе аднадумцаў.

Апошнія гады Аляксей жыў са сваёй сям'ёй за акіянам, але мы заставаліся на сувязі. У рэдакцыі працуе яго мама. І раптам прыйшла адразу незразумелая і нечаканая вестка. 8-га лістапада Аляксей не прачнуўся.

**Калектыў рэдакцыі выказвае самыя шчырыя спачуванні маме Аляксея – стыль-рэдактару газеты Марыі Браніславаўне Берасневай, жонцы Жэні і сыну Лёшу з прычыны непапраўнага гора. Мы застаёмся з вамі ў вашай бядзе і скрусе. Вытрымкі вам і сілы.**




Сярод узнагарод «Рэгіянальнай газеты» ёсць спецпрызы «За абарону праўды».

Фота Настасі УТКІНАЙ.

# Аўтары «Рэгіянальнай газеты» перамаглі ў журналісцкім конкурсе

**6 лістапада адбыўся конкурс Асацыяцыі выдаўцоў рэгіянальнай прэсы «Аб'яднаныя мас-медыя». Сёлета вынікі конкурсу падводзілі ў анлайн-фармаце. Удзельнічала 96 аўтараў. На конкурс прадставілі 281 матэрыял.**

МАЛАДЗЕЧНА

Журналісты «Рэгіянальнай газеты» атрымалі ўзнагароды ў наступных намінацыях:

1. У намінацыі «Гісторыя» перамагла **Аксана Ярашонак** з серыяй публікацый «Спіс вераснёвых смертнікаў».

2. **Настасся Уткіна** атрымала спецпрыз «За абарону праўды» за фотарэпартаж з ланцуга салідарнасці ў Маладзечне 19 чэрвеня.

3. **Зоя Хруцкая** стала фіналістам у намінацыі «Сацыяльная акцыя» за акцыю «Асоба года – 2019».

4. **Зоя Хруцкая** стала фіналістам у намінацыі «Найлепшы матэрыял на беларускай мове» за артыкул «**Вышыванка – як мова, толькі выказаная ніткай. Чаму расійская прапаганда пра вышыванку – паклёп**».

5. Каманда **«Рэгіянальнай газеты»** атрымала спецпрыз «За абарону праўды» за серыю відэаролікаў «Затрыманыя ў Маладзечне».

**Аддзел інфармацыі.**

## Выпускніца Ільянскай школы стала галоўным доктарам Мінска

ВІЛЕЙКА

У Мінску – новы старшыня камітэта па ахове здароўя. Новым кіраўніком сталічнай сферы аховы здароўя стала галоўны доктар 11-й гарадской клінічнай бальніцы Жанна Казачонак, паведамляе Міністэрства аховы здароўя.

Жанна Казачонак (у дзявоцтве Лемех) – ураджэнка Даўгінава. Пасля жыла з бацькамі ў Ілы. Ад 1974 да 1992 года яе бацька, **Віктар Лемех,** быў дырэктарам Ільянскага саўгаса-тэхнікума (цяпер Ільянскі дзяржаўны аграрны каледж). У 1982 годзе Жанна Віктараўна з залатым медалём скончыла Ільянскую школу. У 1988 скончыла лячэбны факультэт Мінскага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга медыцынскага інстытута. У 1989 годзе пачала працаваць тэрапеўтам у Беларускім навукова-даследчым інстытуце экспертызы працаздольнасці. Прайшла шлях да галоўнага доктара 11-й гарадской клінічнай бальніцы. Мае вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю «доктар-рэабілітолаг-эксперт», дзяржаўныя ўзнагароды.

10 лістапада Жанну Казачонак як старшыню прадставілі калектыву камітэта па ахове здароўя. Упершыню сталічны камітэт па ахове здароўя ўзначаліла жанчына. Ад 2002 да 2011 года на чале камітэта стаяў **Дзмітрый Піневіч**, таксама выпускнік Ільянскай школы, а сёння – выконваючы абавязкі міністра аховы здароўя.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота Уладзя ГРЫДЗІНА, «Радыё Свабода».

Беларуская АЭС.

# Мінэнерга: «На БелАЭС неабходна мяняць асобнае абсталяванне»

АСТРАВЕЦ

**Усе тэхналагічныя сістэмы БелАЭС функцыянуюць у штатным рэжыме, паведамляе Мінэнерга. Але ўдакладняе, што асобнае абсталяванне ўжо трэба мяняць.**

На першым энергаблоку Беларускай АЭС працягваецца этап «Энергетычны пуск». Ён прадугледжвае рэжымы працы энергаблока на розных узроўнях магутнасці (да 500 МВт), а таксама праверку ўстойлівасці працы энергасістэмы пры неаднаразовым яе паніжэнні.

«Пры выпрабаваннях, якія праходзяць у адпаведнасці з праграмай дадзенага этапу, выяўлена неабходнасць замены асобнага электратэхнічнага вымяральнага абсталявання. Гэтыя работы праводзяцца згодна з тэхналагічным рэгламентам. У цяперашні час на энергаблоку праводзяцца выпрабаванні і працы ў адпаведнасці з этапнай праграмай », – удакладнілі ў ведамстве.

**Нагадаем, што Беларускую АЭС на Астравеччыне адкрылі 7 лістапада. На адкрыцці прысутнічаў Аляксандр Лукашэнка. Папярэдне ён агледзеў тэрыторыю станцыі з верталёта.**

На адкрыцці Лукашэнка назваў запуск Беларускай атамнай электрастанцыі гістарычнай падзеяй у жыцці краіны. «Усё так будзённа, як быццам метро пабудавалі. Гістарычны момант – краіна становіцца ядзернай дзяржавай», – сказаў ён.

**Акрамя беларускіх афіцыйных асоб, сярод удзельнікаў мерапрыемства – дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота, генеральны дырэктар «Расатама» Аляксей Ліхачоў і пасол Расіі Дзмітрый Мезенцаў.**

У вучэбна-трэніровачным цэнтры БелАЭС Лукашэнку праінфармавалі аб ходзе работ па ўводзе станцыі ў эксплуатацыю і яе інтэграцыі ў эканоміку краіны, перспектывах супрацоўніцтва дзяржкарпарацыі «Расатам» з Беларуссю ў галіне ядзернай энергетыкі, навукі і тэхналогій, ходзе рэалізацыі комплекснага плана па развіцці рэгіёна, дзе пабудавана АЭС.

Міністр энергетыкі **Віктар Каранкевіч** расказаў на адкрыцці, што кожны год БелАЭС будзе вырабляць каля 18 мільярдаў кВт/г. Валютная нагрузка на бюджэт можа знізіцца на пяцьсот мільёнаў долараў. Зменшацца выкіды парніковых газаў у паветра.

**Па словах міністра, тэрмін эксплуатацыі станцыі – 60 гадоў з магчымасцю падаўжэння да ста гадоў.**

Плануюць, што на БелАЭС будуць працаваць звыш дзвюх з палавай тысяч чалавек, каля 60 з іх – спецыялісты з Расіі і Украіны з досведам працы на атамных станцыях.

**Паводле БелТА.**

## З'явіўся графік пераносу рабочых дзён у Беларусі ў 2021 годзе

Ва ўрадзе зацвердзілі графік пераносу рабочых дзён у 2021 годзе. Рашэнне замацавана пастановай Савета Міністраў ад 9 лістапада 2020 года №635.

Працоўныя дні ў 2021 годзе пераносяцца з пятніцы, 8 студзеня, на суботу, 16 студзеня, і з панядзелка, 10 мая, на суботу, 15 мая.

Гэта значыць, на праваслаўныя Каляды мы будзем адпачываць чатыры дні запар – 7, 8, 9 і 10 студзеня (чацвер, пятніцу, суботу і нядзелю). У маі мы будзем адпачываць таксама чатыры дні запар – 8 (суботу), 9 (нядзеля), 10 (панядзелак) і 11 мая (аўторак – Радаўніца).

Арганізацыям прадастаўлена права з улікам спецыфікі вытворчасці ажыццяўляць перанос рабочых дзён, устаноўлены гэтым пастанаўленнем, у іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам.

**Паводле pravo.by.**

## Намеснік старшыні Вілейскага райвыканкама сышла з пасады

ВІЛЕЙКА

9 лістапада апошні дзень на сваёй пасадзе працавала намеснік старшыні Вілейскага райвыканкама Святлана Дзяруга, паведаміла начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай працы Вілейскага райвыканкама Наталля Зык.

Святлана Міхайлаўна курыравала пытанні сацыяльна-культурнай галіны, адукацыі, аховы здароўя, спорту, турызму, ідэалогіі, друку і іншыя, прысутнічала на адпаведных мерапрыемствах на Вілейшчыне.

Хто будзе працаваць на яе пасадзе, пакуль невядома, адзначылі ў аддзеле.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**860**

столькі мужчын у Беларусі прыходзілася на тысячу жанчын у 2019 годзе.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 5.11 | 12.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.6430 | **2.5551** |
| Еўра | 3.0842 | **3.0184** |
| Злоты, 10 | 6.7773 | **6.7186** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3397 | **3.3546** |
| Грыўня, 100 | 9.2733 | **9.0745** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **4.11** | **11.11** |
| Еўра | 3.0300/3.1300 | **2.9700/3.0700** |
| Долар ЗША | 2.6000/2.6800 | **2.5100/2.5900** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | 4.11 | 11.11 |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,75 | **19,88** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,70 | **3,90** |
| Сасіскі, 1 кг | 6,90 | **7,78** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,00 | **17,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,35 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,50 | **3,50** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,60 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,90** |
| Агуркі, 1 кг | 1,80 | **3,00** |
| Баклажаны, 1 кг | – | **2,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | **0,45** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **0,70** |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | **0,40** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,40 | **1,60** |
| Морква, 1 кг | 0,65 | **0,75** |
| Памідоры, 1 кг | 2,10 | **2,00** |
| Перац, 1 кг | 3,40 | **3,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | – | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **4,90** |
| Бананы, 1 кг | 3,40 | **2,20** |
| Вінаград, 1 кг | 3,80 | **4,10** |
| Гранат, 1 кг | 5,40 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 6,50 | **4,50** |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | **4,00** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,50 | **3,90** |
| Нектарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Хурма, 1 кг | – | **3,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,15 | **2,30** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,20 | **4,00** |

## Асудзілі мужчыну, які зарэзаў жонку

**ВАЛОЖЫН**

2 лістапада суд Валожынскага раёна разглядзеў крымінальную справу па абвінавачванні раней судзімага Г. у злачынстве, прадугледжаным часткай 1 артыкула 139 КК.

Абвінавачаны **Г.** у стане алкагольнага ап'янення падчас сваркі з **А.** стукнуў яе не менш за тры разы па галаве і не менш за чатыры – нажом у грудзі. Жанчына памерла на месцы здарэння.

Прысуд – 15 год пазбаўлення волі з адбываннем у папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

Таксама мужчына прымусова будзе лячыцца ад хранічнага алкагалізму. Суд пастанавіў спагнаць з абвінавачанага грашовую кампенсацыю маральнай шкоды ў суме 35 000 рублёў жанчыне **Т.**, якую прызналі пацярпелай.

Прысуд у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны і апратэставаны ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

**Паводле Генеральнай пракуратуры.**

## Гарэла кватэра ў двухкватэрным доме

**ВІЛЕЙКА**

Пра пажар у кватэры ў вёсцы Саланое Даўгінаўскага сельсавета выратавальнікам паведамілі 4 лістапада, каля 19.30.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, убачылі, што гарыць адна з кватэр у двухкватэрным блочным доме. Дом жылы, але падчас пажару ніхто не пацярпеў, расказала карэспандэнту старшы інспектар сектара ўзаемадзеяння з грамадскасцю цэнтра бяспекі жыццядзейнасці і ўзаемадзеяння з грамадскасцю Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Дыяна Жалязняк.**

Агонь пашкодзіў маёмасць і сцены. Прычыну пажару высвятляюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Кіроўца выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з хуткай

**АШМЯНЫ**

6 лістапада ў 19.30 у Ашмянах адбылося лабавое сутыкненне хуткай дапамогі і «Аўдзі».

46-гадовы кіроўца «Аўдзі» рухаўся з боку фізкультурна-аздараўленчага комплексу ў напрамку вуліцы Льнозаводскай. Паводле папярэдняй інфармацыі, у нейкі момант ён выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе дапусціў сутыкненне з аўтамабілем «Форд» хуткай дапамогі, якім кіраваў 52-гадовы жыхар Ашмянскага раёна.

– Пацыента, які быў у хуткай, у бальніцу даставіў іншы аўтамабіль хуткай дапамогі. Траўмаў у выніку ДТЗ ён не атрымаў. А кіроўцу «Аўдзі» з пераломам рэбраў шпіталізавалі ў рэанімацыю. Ён не быў прышпілены рамянём бяспекі, – удакладнілі ў Гродзенскай ДАІ.

У выніку сутыкнення ў легкавога аўтамабіля быў пашкоджаны паліўны бак. Каб пазбегнуць узгарання, на месца ДТЗ выбылі супрацоўнікі МНС.

Прычыны выезду «Аўдзі» на паласу сустрэчнага руху і іншыя абставіны здарэння будуць устаноўлены ў ходзе праверкі.

**Паводле УУС Гродна.**

## З карткі ў віляйчанкі знікла 120 рублёў

**ВІЛЕЙКА**

6 лістапада ў Вілейскі РАУС звярнулася 28-гадовая гараджанка. Яна паведаміла, што з яе банкаўскай карткі знікла 120 рублёў.

Аказалася, што жанчына перапісвалася ў «WhatsApp» з невядомым. Абмяркоўвалі пакупку тавару на адной з інтэрнэт-пляцовак. У выніку размовы пацярпелая паведаміла даныя карткі. Пасля гэтага з яе рахунку знікла 120 рублёў.

Па словах намесніка начальніка Вілейскага РАУС **Мікалая Мягкова**, узбудзілі крымінальную справу па часткі 2 артыкула 212 Крымінальнага кодэкса. Фігуранта шукаюць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Аўтамабіль збіў 14-гадовую школьніцу

**МАЛАДЗЕЧНА**

Аварыя здарылася 5 лістапада, каля 19.00. Пацярпела 14-гадовая вучаніца Маладзечанскай СШ №4.

23-гадовы кіроўца-маладзечанец на «Пэжо-406» выязджаў з двара дома №9 па вуліцы Вальнца. Ён наехаў на дзяўчыну, якая пераходзіла дарогу па лініі тратуара злева направа па ходзе руху машыны.

У пацярпелай – зламаны палец наназе, раны, расказала карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы ДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота УУС Мінаблвыканкама.

Меркаваныя прылады забойства.

# Жанчына загінула ў п'янай бойцы

**Інцыдэнт адбыўся 31 кастрычніка ў Маладзечне, на вуліцы Паркавай. Раніцай на лінію 102 паступіла паведамленне ад 68-гадовай мясцовай жыхаркі пра тое, што ў суседнім доме памерла жанчына. Медыкі, якія прыбылі на месца, канстатавалі смерць 50-гадовай маладзечанкі ад атрыманых нажавых раненняў.**

**МАЛАДЗЕЧНА**

На месцы здарэння пачала працаваць следча-аператыўная група. Праваахоўнікі ўзялі сляды рук, кроў і меркаваную прыладу злачынства – два кухонныя нажы.

Па падазрэнні ў забойстве жанчыны аператыўнікі затрымалі 48-гадовага знаёмага загінулай. Устанавілі, што напярэдадні апошняя прыйшла ў госці да мужчыны, увесь суботні дзень яны распівалі спіртное.

Вечарам падчас застолля паміж імі пачаўся слоўны канфлікт. Падчас сваркі жанчына спачатку атрымала два разы па твары, а затым – два ўдары нажамі ў сэрца. Атрыманыя раны сталіся смяротнымі. Падазраваны пайшоў спаць. Пры гэтым паспрабаваў схаваць сляды злачынства: кухонныя нажы, уваткнутыя ў зямлю, знайшлі побач з домам. Уже раніцай, прачнуўшыся, мужчына зразумеў, што яго знаёмая мёртвая. Пра гэта ён паведаміў суседзям, тыя і патэлефанавалі ў хуткую і міліцыю.

Калі праваахоўнікі ўстанавілі, што смерць носіць крымінальны характар і жанчына загінула не праз натуральныя прычыны, фігурант не стаў адмаўляць сваю датычнасць да зробленага. Падазраванага затрымалі і даставілі ў РАУС Маладзечна.

Мужчыну пагражае ад 6 да 15 гадоў пазбаўлення волі. Раней ён прыцягваўся да крымінальнай адказнасці за крадзеж чужой маёмасці, двойчы – за ўхіленне ад выплаты аліментаў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Гарэў пакой у інтэрнаце. Верагодна, праз курэнне гаспадара

**СМАРГОНЬ**

8 лістапада ў 00.29 смаргонскім выратавальнікам паступіла паведамленне пра тое, што спрацавала аўтаматычная пажарная сігналізацыя «Маланка».

Пасля прыбыцця да месца выкліку выратавальнікі заўважылі задымленне ў пакоі на другім паверсе дзевяціпавярховага інтэрната. Дзякуючы своечасоваму выяўленню і паведамленню, пажар ліквідавалі падручнымі сродкамі ў заспетых памерах. Эвакуацыя жыхароў з будынка не спатрэбілася.

Прычына пажару высвятляецца. Агонь пашкодзіў канапу і пасцельныя прыналежнасці. Найбольш верагодна, што да пажару прывяло неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні гаспадара пакоя. На момант узнікнення пажару ён быў нецвярозым, не пацярпеў.

Пасля агляду работнікамі хуткай медыцынскай дапамогі мужчына шпіталізаваны з алкагольным атручваннем у цэнтральную раённую бальніцу.

**Паводле МНС.**

## Кіроўца легкавой машыны не заўважыў грузавік

**МАЛАДЗЕЧНА**

Аварыя здарылася 9 лістапада, на вуліцы Віленскай, каля дома №22, расказала карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы ДАІ Маладзечна Дыяна Галуза. Сутыкнуліся легкавік і грузавая машына.

36-гадовы кіроўца аўтамабіля «Кіа», жыхар Лебедзева, не заўважыў грузавік «Даф», які стаяў спераду, і ўехаў у яго. За рулём грузавіка быў 50-гадовы кіроўца. Абодва ўдзельнікі ДТЗ – цвярозыя. У машын – механічныя пашкоджанні.

Матэрыяльны ўрон складае менш за васемсот еўра. Склалі еўрапратакол.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мікрааўтобус наехаў на пусты легкавік

**МАЛАДЗЕЧНА**

ДТЗ адбылося 10 лістапада на 64 кіламетры дарогі «Мінск-Нарач». Гэта паміж Красным і Крыніцай.

Каля 11.00 20-гадовы кіроўца, жыхар Маладзечанскага раёна, ехаў па аўтадарозе з боку Мінска ў бок Маладзечна. На 64-кіламетры ён рухаўся па ўзбочыне з хуткасцю каля 70 кіламетраў у гадзіну. Бачыў, што на ўзбочыне стаіць аўтамабіль «Дэу».

– Кіроўца вырашыў перастроіцца ў паласу руху. Пачаў перастройвацца, але ўбачыў там транспарт. Ніяк не паспеў адрэагаваць і ў выніку наехаў на «Дэу», што стаяла на ўзбочыне, – расказала карэспандэнту інспектар па адміністрацыйнай практыцы ДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза.**

У «Дэу» людзей не было. У ДТЗ ніхто не пацярпеў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Абірайце пераможцу фотаакцыі «Не губляй ніводнага дня»

**Сёлета ў акцыі ўдзельнічае сем чалавек.**

Галасаванне мы закрыем 16 лістапада, 17 лістапада абвесцім вынікі акцыі. Прагаласаваць за свайго фаварыта можна на нашым сайце **rh.by**.

**Які здымак трапіць на фірменны каляндар газеты за 2021 год, абірае рэдакцыя. Чытачоў мы запрашаем абраць пераможцу ў намінацыі на прыз глядацкіх сімпатый. Знаёмім з удзельнікамі акцыі.**

### 1. Зміцер Гулецкі, Вілейка

Мне вельмі падабаюцца роварныя вандроўкі. Большасць са здымкаў якраз і робіцца падчас такіх падарожжаў. Выбраць адзін найлепшы здымак было няпроста. Іх шмат. У кожнай паездцы ёсць прыгожыя, непаўторныя імгненні.

Гэты здымак зроблены сёмага жніўня падчас падарожжа на Браслаўскія азёры. На фота від на азёры з гары «Маяк».

### 2. Аляксандра Войтава, Маладзечна

Гледзячы на гэтае фота, разумееш, што самае галоўнае ў жыцці – гэта твае блізкія і родныя, якія заўсёды побач з табой. Не губляйце ніводнага дня, праводзьце як мага больш часу з блізкімі і роднымі.

### 3. Кацярына, Ілья Вілейскага раёна

Я мама трох сыноў. На здымку чатырохгадовы сын Яраслаў. Чароўная пара – восень!

### 4. Яўген Беркутаў, Маладзечна

Фотаздымак зроблены ў парку Перамогі ў Маладзечне вечарам 9 жніўня, у дзень выбараў прэзідэнта. Да закрыцця выбарчых участкаў заставалася крыху больш за гадзіну.

Гэта быў апошні дзень, калі нам усім было так весела і бесклапотна.

Мяне на фота відаць толькі са спіны, злева. Затое выдатна бачны мой сын Аляксандр у цэнтры, пляменніца Кацярына з мужам Аляксандрам.

### 5. Алена Драко, Мінск

Фота «Насустрач шчасцю». Кірылу адзін год і адзін месяц.

Я педагог па прафесіі і па жыцці. Але толькі са з'яўленнем свайго дзіцяці зразумела, як гэта складана і важна – выхаваць пазітыўнага чалавека ў нашым свеце.

### 6. Уладзімір Пятроўскі, Маладзечна, кіроўца-дальнабойшчык

«Добра ў лесе, добра ў бару! Туру-руру-ру! Туру-руру-ру…!» Прыемна з землякамі сустрэцца ў лесе, паразмаўляць і назбіраць ягад!

Фота зроблена ў лесе ў Мядзельскім раёне, станцыя Будслаў. Сустрэчу ніхто не планаваў, яна была спантанная. Як добра, што ў маёй кішэні заўжды ёсць фотаапарат.

### 7. Марыя Танана, Маладзечна

Фота зрабілі ў вёсцы Капачы Маладзечанскага раёна.

*Быў цёплы*
*майскі дзень,*
*І вецер станавіўся*
*ўсё мацней.*
*Мы вырашылі*
*запусціць ў паветра*
*змея,*
*Для добрага настрою*
*і задавальнення!*

Я вельмі люблю сваю вёску, усю цёплую пару года я праводжу тут. Мяне натхняе прырода, яна з'яўляецца крыніцай маёй жыццёвай энергіі. Часта падарожнічаем усёй сям'ёй па Беларусі і знаходзім новыя і цікавыя месцы.

**Аддзел інфармацыі.**



1. Фота Змітра Гулецкага, Вілейка.



2. Фота Аляксандры Войтавай, Маладзечна.



3. Фота Кацярыны Тонкавіч, Ілья Вілейскага раёна.



4. Фота Яўгена Беркутава, Маладзечна.



5. Фота Алены Драко, Мінск.



6. Фота Уладзіміра Пятроўскага, Маладзечна



7. Фота Марыі Тананы, Маладзечна.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

Рэгіянальная газета. rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

**ПРАДАЕЦЦА**

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

**КУПЛЮ**

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль у любым стане. Тэрмінова. Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто ў любым стане. Дорага. Т. (8-044) 5733095.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Бітую іншамарку, забяру сам, грошы адразу. Т. (8-029) 9085343.*

**ПРАДАЕЦЦА**

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

## НЕРУХОМАСЦЬ

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у в. Більцэвічы Вілейскага раёна, 25 сотак. Вольга. Т. (8-029) 7674753.*

**МЯНЯЮ**

• Дом на вул. Стаханаўскай,96 на 1-пакаёвую кватэру ў горадзе Вілейка альбо прадам. Т. (8-029) 8729001.

**ЗДАМ**

• Здам у арэнду (магчымы наступны продаж) памяшканне агульнай плошчай 370 кв.м для ажыццяўлення рознічнага гандлю прадуктамі харчавання. Цэнтральная каналізацыя, эл. магутнасць 50кВт, адрамантаванае. Г. Маладзечна, вул. Святаянская,75. ІП Заянчкоўскі І.С. УНП 691890017. Т. А1 (8-029) 6278076.*

## СПАЧУВАННЕ

Выказваем шчырыя спачуванні **Марыі Бaніславаўне Берасневай** у сувязі з заўчаснай смерцю сына **Аляксея.** Светлай памяці.

**Ад Віталя Макаўчука і яго сям'і.**

## ПАСЛУГІ

**ІНШЫЯ ПАСЛУГІ**



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (скважын). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А1 (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт, устаноўка, наладка газавага абсталявання 4-га пакалення на ваш аўтамабіль. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

**ПРАДАЕЦЦА**

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Прадам мабільны тэлефон Meizu M8c, у добрым стане, 100 руб. Т. (8-033) 3668181.*

**Музінструмент**

• Гітара. Т. (8-029) 5019550.*

• Піяніна. Нядорага. Т. (8-029) 6086204*

• Электралічбавы пяцірадны баян з актыўнай акустычнай калонкай. Майстровы, зроблены вядомым майстрам Віктарам Шаўцовым (гл. Ютуб). Выдатны баян – 100 стыляў, 80 галасоў. Вельмі шмат дадатковых функцый. Баян у выдатным стане з чахлом. Цана 5200 рублёў. Уладзімір. Т. (8-029) 3349632, (8-029) 5517332.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Авечкі нядорага, дапамагу з дастаўкай. Т. (8-029) 1707186.

• Бараны і авечкі жывой вагой, 5 рублёў за 1 кг. Віталій. Т. (8-029) 6769359.*

• Каза з козачкай. Валожынскі раён. Т. (8-029) 3597375.*

• Парасяты в'етнамскія 2,5-месячныя, ядуць усё, прышчэпленыя па ўзросце, кастрыраваныя. Хлопчыкі і дзяўчынкі. Магчымая дастаўка ў Смаргонскі, Ашмянскі, Вілейскі, Маладзечанскі раёны. Т. (8-044) 4812864, (8-029) 9380010, (8-029) 6337353.

• Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасяты в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8-025) 7894666.*

**КУПЛЮ**

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Гідраход для ДОН-1500 альбо аналаг. Т. (8-029) 1707186.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

**АДДАМ**

• Аддам дарма тумбу з люстэркам (трэльяж) карычневага колеру, паліраваная, б/у. Т. (8-029) 6458473.*

**ІНШАЕ**

• Адукацыйны цэнтр «Волшебное прикосновение» запрашае на вучэбныя курсы па напрамках: масажыст, бравіст, майстар па дэпіляцыі, касметык, майстар пазногцевага сэрвісу. ІП Бухнов А.Г. УНП 391435137 Т. (8-029) 7178246, (8-025) 5480842.*

## ПРАЦА

**ПАТРАБУЕЦЦА**

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.

• Шукаю работу. (8-029) 5019550.*

• Шукаю працу па рамонце драўляных дамоў, замена ніжніх вянцоў, рамонт фундаментаў, дахаў, аддзелка і ўцяпленне фасада, сайдынг, блокхаус, імітацыя бруса. Т. МТС (8-029) 8745410.*

# Дайджэст: новы прэзідэнт ЗША і санкцыі супраць беларускіх чыноўнікаў

**Расказваем, што адбывалася ў Беларусі і свеце за апошні тыдзень: значныя падзеі і навіны – у нашым дайджэсце.**

### У АБСЕ заявілі аб неабвержных доказах фальсіфікацыі выбараў у Беларусі

Прэзідэнцкія выбары ў Беларусі мелі відавочныя недахопы, не адпавядалі нормам маніторынгу электаральнага працэсу, не былі свабоднымі і справядлівымі. Пра гэта гаворыцца ў дакладзе дакладчыка АБСЕ Вольфганга Бенедэка аб меркаваных парушэннях правоў чалавека ў Беларусі па выніках прэзідэнцкіх выбараў.

«У якасці агульнага вываду ёсць неабвержныя доказы таго, што прэзідэнцкія выбары 9 жніўня 2020 году былі сфальсіфікаваныя і беларускія сілы бяспекі здзяйснялі масавыя і сістэматычныя парушэнні правоў чалавека ў адказ на мірныя дэманстрацыі і пратэсты», – гаворыцца ў аб'ёмным дакуменце на 58 старонак.

**Паводле ТАСС.**

### Байдэна абралі прэзідэнтам ЗША

**Джо Байдэн** стане 46-м прэзідэнтам ЗША, паведамляе CNN. Пасля перамогі ў штаце Пенсільванія, дзе ён нарадзіўся, ён атрымлівае больш за 270 галасоў, неабходныя для абрання прэзідэнтам.

**Дональд Трамп** будзе аспрэчваць рашэнне ў судзе.

**Паводле CNN.**

### Еўрасаюз увёў санкцыі супраць Лукашэнкі і яшчэ 14 чыноўнікаў

Еўрапейскі саюз зацвердзіў дадатковы спіс беларускіх афіцыйных асоб, у дачыненні да якіх ўводзяцца персанальныя санкцыі.

**Рашэнне прынятае «з улікам цяжкай сітуацыі ў Беларусі з прычыны рэпрэсій у дачыненні да грамадзянскай супольнасці і апазіцыйных актывістаў».**

Акрамя **Аляксандра Лукашэнкі** ў спісе яшчэ 14 чалавек: **Віктар Лукашэнка**, **Ігар Сяргеенка** (кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта), **Іван Церцель** (старшыня КГБ), **Раман Мельнік** (начальнік Галоўнага ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі МУС), **Іван Наскевіч** (старшыня Следчага камітэта), **Аляксей Волкаў** (старшыня Дзяржаўнага камітэта судовых экспертызы), **Сяргей Аземша** і **Андрэй Смаль** (намеснікі старшыні Следчага камітэта), **Андрэй Паўлючэнка** (кіраўнік Аператыўна-аналітычнага цэнтра), **Ігар Бузоўскі** (намеснік міністра інфармацыі), **Наталля Эйсмант** (прэс-сакратар Лукашэнкі), **Сяргей Зубкоў** (камандзір групы «Альфа» КГБ), **Андрэй Раўкоў** (былы дзяржаўны сакратар Савета бяспекі), **Пётр Міклашэвіч** (старшыня Канстытуцыйнага суда).

**Паводле tut.by.**

### Арменія, Расія і Азербайджан падпісалі заяву аб спыненні вайны ў Карабаху

Прэм'ер-міністр Арменіі **Нікол Пашынян** падпісаў з прэзідэнтамі Расіі і Азербайджана заяву аб спыненні вайны ў Нагорным Карабаху а першай гадзіне ночы 10 лістапада.

З гэтай нагоды ў Арменіі пачаліся пратэсныя акцыі. Па розных ацэнках, сотні ці тысячы пратэстоўцаў, незадаволеных пагадненнем, выйшлі на цэнтральную плошчу Ерэвана ля будынка ўрада і парламента краіны.

Раніцай 10 лістапада ў Карабах вылецелі 10 самалётаў з расійскімі міратворцамі. Па ўмовах пагаднення аб спыненні агню, расійскія міратворцы будуць знаходзіцца на лініі паміж армянскімі і азербайджанскімі сіламі. Таксама яны стануць ахоўваць Лачынскі калідор, які злучае цэнтр Нагорнага Карабаха Сцепанакерт з Арменіяй.

**Паводле «РИА Новости».**

### Пратэсная акцыя завяршылася рэкорднымі затрыманнямі

У нядзелю, 8 лістапада, у Мінску праходзіла традыцыйная пратэсная акцыя. Яна завяршылася рэкорднымі затрыманнямі. Сілавікі затрымлівалі пратэстоўцаў на працягу ўсяго дня. У выніку незарэгістраваны праваабарончы цэнтр «Вясна» зафіксаваў больш за тысячу затрыманых.

**Такая колькасць затрыманых людзей адпавядае лічбам першых дзён пратэстаў у жніўні.**

У нядзелю сілавікі схапілі лёгкаатлета **Андрэя Краўчанку**, кікбаксёра **Івана Ганіна**, Міс Беларусь 2008 **Вольгу Хіжынкову**, акцёра **Аляксандра Ждановіча** ды іншых вядомых людзей.

**Аддзел інфармацыі.**

# Укараненне новай тэхналогіі збыту – найважнейшы кірунак тэхнічнай палітыкі філіяла «Энергазбыт»




**Маладзечанскае міжраённае аддзяленне (МРА) філіяла «Энергазбыт» у цяперашні час актыўна праводзіць замену электралічыльнікаў індукцыйнага тыпу на электронныя.**

Укараненне новай тэхналогіі збыту электраэнергіі, якая базуецца на выкарыстанні сучасных шматфункцыянальных электронных прыбораў, з'яўляецца адным з найважнейшых напрамкаў тэхнічнай палітыкі філіяла «Энергазбыт». Электронныя лічыльнікі больш надзейныя і маюць вышэйшы, у параўнанні з індукцыйнымі, клас дакладнасці – 1.0 і вышэй (клас дакладнасці індукцыйных лічыльнікаў пачынаецца ад 2.0). Акрамя таго, яны дазваляюць вымяраць якасць электраэнергіі і велічыню магутнасці, захоўваць даныя па ўліку электраэнергіі доўгі час.

Электронныя прыборы ўліку дазваляюць рэалізоўваць шматтарыфны ўлік электраэнергіі, калі суткі ўмоўна разбіваюцца на некалькі часавых інтэрвалаў – тарыфных перыядаў. У кожным з іх энергія адпускаецца па розным кошце: у перыяд максімальнай нагрузкі энергасістэмы ён найбольшы, у перыяд мінімальнай нагрузкі – найменшы. Падрабязную інфармацыю аб пераходзе на тарыфы, дыферэнцыраваныя па часавых перыядах, можна атрымаць у спецыялістаў Маладзечанскага МРА (тэл. **72-64-79, 74-61-95**), а таксама на афіцыйным сайце філіяла «Энергазбыт» **www.energosbyt.by** у раздзеле «Інфармацыя спажыўцам».

Прымяненне электронных лічыльнікаў таксама дазваляе ўводзіць у эксплуатацыю аўтаматызаваныя сістэмы кантролю і ўліку электрычнай энергіі (АСКУЭ) у спажыўцоў як у бытавым, так і ў прамысловым сектары. Названыя сістэмы даюць магчымасць дыстанцыйнага збору і аналізу звестак аб колькасці спажыванай электраэнергіі без лакальнага зняцця паказанняў з прыбораў уліку.

Работа па выкананні праграмы мадэрнізацыі сродкаў уліку электрычнай энергіі да 2023 года вядзецца ў філіяле «Энергазбыт» на працягу 5 гадоў. Толькі ў Маладзечанскім МРА праведзена замена больш як 45 тыс. электралічыльнікаў, што складае больш за 50% ад агульнай колькасці прыбораў уліку. Мэтай праграмы мадэрнізацыі з'яўляецца поўная замена індукцыйных прыбораў уліку на электронныя ў бытавых спажыўцоў **на бязвыплатнай аснове**. Поўная рэалізацыя праграмы мадэрнізацыі дазволіць больш аператыўна і дакладна аналізаваць інфармацыяй аб разліках за спажытую электрычную энергію, а таксама дасць грамадзянам шэраг дадатковых магчымасцей.

РУП «Мінскэнерга» філіял «Энергазбыт» УНП 100071593

# Прайшлі тры месяцы ад пачатку пратэстаў супраць фальсіфікацыі выбараў і гвалту з боку сілавікоў

**9 жніўня ў Беларусі прайшлі прэзідэнцкія выбары. Цэнтрвыбаркам прызнаў пераможцам Аляксандра Лукашэнку. Ад вечара 9 жніўня ў беларускіх гарадах пачаліся акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі выбараў, якія спрабавалі падавіць сілавікі.**



Пратэстоўцы стаяць у счэпцы на плошчы ў Маладзечне 9 жніўня.

У Маладзечне людзі таксама выходзілі на акцыі. Раскажам, што адбылося за тры месяцы пратэстаў.

### Больш за 250 затрыманых у першыя дні

9 жніўня ў Беларусі адключылі інтэрнэт, доступ да навін быў абмежаваны. Аднак увечары пасля закрыцця выбарчых участкаў маладзечанцы сабраліся на Цэнтральнай плошчы. Супрацоўнікі сілавых структур разагналі людзей з плошчы, некалькі гадзін запар затрымлівалі пратэстоўцаў.

10 жніўня цэнтр Маладзечна сталі патруляваць міліцыянеры, амапаўцы і вайскоўцы. У гэты дзень пратэсную акцыю таксама разагналі сілавікі. 11 жніўня маладзечанцы не праводзілі акцыі ў цэнтры горада.

За гэтыя дні вядома пра затрыманне больш як 250 чалавек. Сярод затрыманых былі акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра ў Маладзечне **Павел Святоха**, вядомы адзінаборац **Аляксей Кудзін**.





Падчас жаночага жалобнага шэсця 19 жніўня.



Мітынг 16 жніўня.

### Жаночыя акцыі, мітынгі, з'яўленне ініцыятыўнай групы

12 жніўня ў Маладзечне прайшла першая жаночая акцыя. Жанчыны стаялі з кветкамі каля Кафедральнага сабора Успення Найсвяцейшай Багародзіцы. Тады сілавікі працягнулі затрымліваць людзей на вуліцах Маладзечна, але ўдзельніц жаночай акцыі не чапалі. У наступныя дні жанчыны працягнулі акцыі, кожны дзень выходзілі да Чырвонага касцёла.

15 і 16 жніўня маладзечанцы збіраліся на плошчы, праводзілі мітынгі. У той дзень сфармавалася ініцыятыўная група, якая спрабавала дамагчыся вызвалення ўсіх затрыманых у горадзе і атрымаць дазвол на правядзенне акцый і мітынгаў у любых месцы Маладзечна.

Паўтара тыдня ў Маладзечне штодня праходзілі акцыі і мітынгі пратэстоўцаў. Дэманстранты збіраліся ў розных пунктах горада. Супрацоўнікі міліцыі не перашкаджалі акцыям.

### Акцыя прыхільнікаў дзеючай улады

20 жніўня ля амфітэатра прайшла акцыя прыхільнікаў дзеючай улады і Аляксандра Лукашэнкі. На ёй выступіў старшыня райвыканкама Юрый Горлаў. На акцыі сабралася каля тысячы чалавек. Гэта была першая і апошняя акцыя ў Маладзечне тых, хто падтрымлівае дзеючую ўладу. Пасля ў горадзе прайшло некалькі аўтапрабегаў – удзельнікі залеплівалі нумарныя знакі. У адным з аўтапрабегаў удзельнічала член Савета Рэспублікі і дырэктар школы №14 **Каліна Капуцкая**.

### Заканчэнне «адлігі»

Напрыканцы жніўня міліцыянеры зноў пачалі суправаджаць акцыі пратэстоўцаў. Затрыманняў напрыканцы жніўня ў Маладзечне падчас пратэстаў не адбывалася.

25 жніўня прайшло пахаванне **Мікіты Крыўцова**. Яго знайшлі павешаным у Мінску амаль праз тыдзень пасля знікнення. Крыўцоў удзельнічаў у акцыі пратэсту ў Маладзечне 9 жніўня. Сваякі не вераць у самагубства Мікіты і звязваюць яго смерць з апошнімі падзеямі ў краіне.

### Верасень і кастрычнік без шэсцяў, але з партызаншчынай і судамі

У Маладзечне напачатку верасня прайшлі два шэсці. Іх суправаджалі супрацоўнікі міліцыі, амапаўцы. Пасля завяршэння акцыі некаторых удзельнікаў затрымлівалі.

Удзельнікі пратэсных акцый абралі новую форму пратэсту – збіраліся ў сваіх дварах, на канцэртах і шпацыравалі без сімволікі па нядзелях.

Верасень і кастрычнік адметныя тым, што ў гэтыя месяцы амаль штодня праходзілі па некалькі судовых пасяджэнняў па справах 23.34 КаАП – удзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах.

Напрыканцы верасня асудзілі **Паўла Пяскова** і **Уладзіслава Еўсцягнеева** за гвалт у дачыненні да амапаўцаў падчас ланцуга салідарнасці 19 чэрвеня. Гэта першы суд у Беларусі па справе гвалту над супрацоўнікамі органаў унутраных спраў за выбарчы перыяд.



Тэкст і фота –
Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ



Фота rutab.net.

# «Метад»

**«Метад» – расійскі тэлесерыял у жанры дэтэктыўна-псіхалагічнага трылера. Галоўныя ролі выконваюць Канстанцін Хабенскі і Паўліна Андрэева.**

Прэм'ера першага сезона адбылася ў 2015 годзе. У той жа год стала вядома аб працягу серыяла на другі сезон. 8 лістапада 2020 года на Першым канале адбылася прэм'ера другога сезона – новыя серыі будуць выходзіць у эфір штонядзелі а 22:00 або а 23:00.

## Сюжэт

Серыял «Метад» з Хабенскім і Андрэевай у галоўных ролях расказвае пра таленавітага дэтэктыва **Радзівона Мегліна**, які спецыялізуецца на вышуку небяспечных серыйных забойцаў.

У маладосці Радзівон выявіў у сабе дзіўныя схільнасці маньяка, але з дапамогай прафесійных псіхолагаў Мегліну ўдалося пазбавіцца ад гэтай паталогіі. Цалкам пераадолеўшы свае прыроджаныя заганы, Радзівон уладкоўваецца працаваць следчым. Маючы свой уласны сакрэтны метад злову маньякаў, Меглін з лёгкасцю раскрывае любыя заблытаныя справы. Дэтэктыў ва ўсіх падрабязнасцях прадугледжвае паводзіны злачынца і з высокай дакладнасцю апісвае карціну таго, што здарылася. Ён сам вырашае, каго з маньякаў пакінуць у жывых і ў далейшым назіраць за яго паводзінамі, а каго пазбавіць права на жыццё. Свой таемны метад Радзівон старанна хавае ад таварышаў па службе. Але аднойчы малады стажор Мегліна, дзяўчына па імені Ясенія, пазнае тонкасці працы дэтэктыва.

## Правобразы зладзеяў

Прадзюсары серыяла падкрэсліваюць, што «Метад» з'яўляецца самастойным і самабытным творам, які не мае блізкіх аналагаў. Стваральнікі расійскага серыяла адмаўляюць цесную сувязь іх працы з «Дэкстэрам», пацвярджаючы некаторую агульнасць з серыялам «Сапраўдны дэтэктыў».

**Правобразы галоўных герояў часткова запазычаныя з фільма «Дастукацца да нябёсаў»: прыпадкі героя Хабенскага і боязь, якая перарастае ў прыхільнасць, гераіні Андрэевай.**

Правобразамі маньякаў сталі рэальныя маньякі, якія дзейнічалі ў Савецкім Саюзе і сучаснай Расіі. Прадзюсар серыяла **Аляксандр Цэкала** ў інтэрв'ю **Юрыю Дудзю** пацвердзіў, што ўсе гісторыі маньякаў з серыяла заснаваныя на рэальных падзеях.

## Узнагароды

• 3 прэміі ТЭФІ ў катэгорыях «Тэлевізійны фільм/серыял», «Найлепшы акцёр тэлевізійнага фільма/серыяла» (Канстанцін Хабенскі), «Тэлевізійны прадзюсар сезона» (Аляксандр Цэкала);

• 3 прызы Асацыяцыі прадзюсараў кіно і тэлебачання ў катэгорыях «Найлепшы акцёр тэлевізійнага фільма/серыяла» (Канстанцін Хабенскі), «Найлепшая праца рэжысёра мантажу», «Найлепшая праца гукарэжысёра»;

• прэмія «Слова» ў катэгорыі «Найлепшы сцэнарый тэлевізійнага фільма»;

• прэмія «Жорж» у катэгорыі «Расійскі серыял года (драма)»;

• прэмія Нью-Ёркскага кінафестывалю ў катэгорыі «Крымінальная драма»;

• плацінавая ўзнагарода Х'юстанскага міжнароднага кінафестывалю.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 16 НОЯБРЯ**

**7.00, 15.50, 18.20, 21.05, 0.55** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 20.05** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.50** «Удачные советы» СБ ТВ.
**10.00** Мультфильмы «Тайная жизнь».
**11.30, 16.35** Т/с **«БЕРЕЗКА».**
**13.15** Х/ф **«ВОСТОЧНЫЙ ВЕТЕР».**
**15.05, 18.25** Т/с **«ВДОВА».**
**19.15** «Суперлото».
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«НОЧНЫЕ ИГРЫ».**
**22.45** Х/ф **«ИМЯ РОЗЫ».**

**ВТОРНИК, 17 НОЯБРЯ**

**7.00, 15.50, 18.25, 21.10, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 19.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.05** Д/ф «ЗАБАЙКАЛЬЕ. ВЫЖЖЕННАЯ ЗЕМЛЯ».
**9.30** Мультфильмы «Головоломка».
**11.00, 16.40** Т/с **«БЕРЕЗКА».**
**12.50** Х/ф **«ИМЯ РОЗЫ».**
**15.00, 18.30** Т/с **«ВДОВА».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ИНОСТРАНЕЦ».**
**23.10** Х/ф **«ЛИГА СПРАВЕДЛИВОСТИ».**

**СРЕДА, 18 НОЯБРЯ**

**7.00, 15.50, 18.45, 21.10, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 20.05** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.50** «Удачные советы» СБ ТВ.
**10.00** Мультфильмы «Три богатыря и ход конем».
**11.15, 17.00** Т/с **«БЕРЕЗКА».**
**13.00** Х/ф **«ЛИГА СПРАВЕДЛИВОСТИ».**
**15.00, 18.50** Т/с **«ВДОВА».**
**16.00** «Мульт-парад». «Сказка о царе Салтане».
**19.35** «Бьюти День».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЛЕД».**

**ЧЕТВЕРГ, 19 НОЯБРЯ**

**7.00, 15.50, 21.10, 0.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.15, 19.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.00** Мультфильмы «Балерина».
**10.30** «Готовь как шеф».
**10.50, 16.20** Т/с **«БЕРЕЗКА».**
**12.35** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ».**
**15.00** Т/с **«ВДОВА».**
**18.10** «Фешн is my профешн».
**18.20** Т/с **«СКВОЗЬ СНЕГ».**
**19.15** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ОБРАЗ ВРАГА».**

**ПЯТНИЦА, 20 НОЯБРЯ**

**7.00, 16.05, 21.10, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.15** «Мульт-парад».
**7.30, 16.10, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20, 19.20** Т/с **«МАРЬИНА РОЩА».**
**9.45** Стрим-спектакль «Тигренок Петрик».
**10.30** Т/с **«БЕРЕЗКА».**
**12.15** Х/ф **«ОБРАЗ ВРАГА».**
**15.15, 18.25** Т/с **«СКВОЗЬ СНЕГ».**
**16.40** Х/ф **«ВА-БАНК».**
**19.15** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ВТОРЖЕНИЕ».**
**23.20** Х/ф **«МОЙ СОЗДАТЕЛЬ».**

**СУББОТА, 21 НОЯБРЯ**

**7.00, 13.50, 18.50, 21.10, 2.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.40** «Приколы 13-й школы».
**8.40** Х/ф **«ЛЮБОВЬ И ГОЛУБИ».**
**10.30** «Дети о еде».
**10.50** Х/ф **«КОРОЛЕВА БРИЛЛИАНТОВ».**
**13.55** «Смотрим всей семьей»: «Удивительное путешествие доктора Дулитла».
**15.40** Мультфильмы «Три богатыря и наследница престола».
**17.05** Х/ф **«МАЖОР».**
**18.55** Х/ф **«ЛЕВ ЯШИН –ВРАТАРЬ МОЕЙ МЕЧТЫ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my профешн».
**21.15** Х/ф **«ДЕВУШКА С ТАТУИРОВКОЙ ДРАКОНА».**
**23.55** Х/ф **«СЕКРЕТНАЯ СЛУЖБА».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 22 НОЯБРЯ**

**7.00, 13.25, 16.40, 21.05, 1.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Три богатыря и морской царь».
**8.20** «Приколы 13-й школы».
**8.25** Х/ф **«БЕРЕГИСЬ АВТОМОБИЛЯ».**
**10.00** Х/ф **«РАСПЛАТА».**
**13.30** «Смотрим всей семьей»: Мультфильм «В поисках Йети».
**15.00** Х/ф **«АКСЕЛЬ».**
**16.45** «Детектив на экране»: «Глупость мертвеца».
**18.20** Т/с **«КАСЛ».**
**19.05** «Погода».
**19.10** Х/ф **«ГЛУБОКОЕ СИНЕЕ МОРЕ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПЕРВОМУ ИГРОКУ ПРИГОТОВИТЬСЯ».**
**23.30** Ужастик «Американский оборотень в Париже».

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 16 НОЯБРЯ**

**6.30, 13.00, 17.10, 22.15** Мажорный лад.
**8.00** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**9.40** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ, УДАЧИ!».**
**11.20** Х/ф **«ЭВОЛЮЦИЯ».**
**14.00** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ».**
**15.30** Новости БЖД.
**15.45** Х/ф **«ТЕОРИЯ ХАОСА».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«50 ПЕРВЫХ ПОЦЕЛУЕВ».**

**ВТОРНИК, 17 НОЯБРЯ**

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15, 17.15, 22.15** Мажорный лад.
**12.00** Х/ф **«ШАНХАЙСКИЕ РЫЦАРИ».**
**14.00** Х/ф **«СОКРОВИЩА О.К.».**
**15.40** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ».**
**19.15** Мая Радзіма.
**20.15** Х/ф **«БЕЗ ТОРМОЗОВ».**

**СРЕДА, 18 НОЯБРЯ**

**6.30, 8.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Мая Радзіма.
**10.00** Х/ф **«КУХНЯ. ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**
**12.00, 16.20, 22.15** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ».**
**14.35** Х/ф **«ОХОТНИКИ ЗА ПРИВИДЕНИЯМИ».**
**17.20, 20.15** Рядом со звездами.
**19.15** Все обо всем.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 19 НОЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 18.00** Будьте здоровы.
**8.15** Х/ф **«МОДНАЯ ШТУЧКА».**
**9.55, 13.45, 22.15** Мажорный лад.
**12.10** Х/ф **«ЗАЧИНЩИКИ».**
**14.05** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**16.00** Х/ф **«АМЕЛИ».**
**19.15** Мая радзіма.
**20.15** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**

**ПЯТНИЦА, 20 НОЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**7.15** Будьте здоровы.
**8.15, 19.20, 22.20** Мажорный лад.
**12.00** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**13.30** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**15.35** Х/ф **«ИМЯ».**
**17.25** Новости БЖД.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости. Время местное.
**20.20** Мая радзіма.
**20.30** Музыкальная открытка.

**СУББОТА, 21 НОЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости. Время местное.
**7.20, 15.50, 18.15, 19.20, 22.30** Мажорный лад.
**8.20** Будьте здоровы.
**8.40** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**
**10.05** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ КНИГА».**
**12.10** Х/ф **«ИЗ 13 В 30».**
**13.45** Х/ф **«КАНИКУЛЫ МЕЧТЫ».**
**15.20, 21.10** Новости БЖД.
**16.40** Х/ф **«ЗАКОЛДОВАННАЯ ЭЛЛА».**
**20.20** Мая радзіма.
**20.30** Желаем вам.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 22 НОЯБРЯ**

**6.30** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**8.20** Х/ф **«КУХНЯ. ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**
**10.25** Х/ф **«ГРИНЧ».**
**13.20** Х/ф **«ЛЮБИТ НЕ ЛЮБИТ».**
**14.55** Х/ф **«ЖЕНЮСЬ НА ПЕРВОЙ ВСТРЕЧНОЙ».**
**16.20** Х/ф **«СЕМЕЙНОЕ ОГРАБЛЕНИЕ».**
**17.50** Х/ф **«ЭТОТ НЕЛОВКИЙ МОМЕНТ».**
**19.35** Х/ф **«АМЕЛИ».**
**21.35** Х/ф **«ДИКАЯ ШТУЧКА».**

## Беларусь 1

**6.15** Х/ф **«НАРУШАЯ ПРАВИЛА».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.20** Родные люди.

**10.40** Зона Х. Итоги недели.

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«НЕВЕЗУЧАЯ».**

**14.30** Маршрут построен.

**15.15** Т/с **«ВРЕМЕННО НЕДОСТУПЕН».**

**16.25** Один день.

**16.50, 19.10** Х/ф **«СВОЙ ЧУЖОЙ СЫН».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«РАЗБИТЫЕ СЕРДЦА».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.55** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.40, 19.35** Телебарометр.

**9.45** «До свидания». Реалити-шоу.

**10.30** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.

**11.30** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.

**12.25** Приключенческая фантастика «Излом времени».

**14.20, 20.05** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**15.15** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.55** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.50** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ЗАКАТ».**

**23.50** Х/ф **«ПРИНЦЕССА ЛЬДА».**

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.20, 20.20** Навіны культуры.

**8.20, 14.40** «Гэты дзень».

**8.25** «Жанаты халасцяк». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Пірог «Трухлявы пень».

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «І на каменнях расцуць дрэвы». Мастацкі фільм.

**14.45 Т/ф «СІЛЬВА».**

**16.45** «Гукі ў футляры». Фартэпіяна.

**17.10** «Ігар Лучанок. Пра песні, Радзіму і сяброў». Дакументальны фільм.

**17.50** «Сем нявест яфрэйтара Збруева». Мастацкі фільм [СТ].

**19.25** «Кадры жыцця». Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Чарнышоў.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Ганна Герман». Шматсерыйны мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.15** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.15** ОНТ представляет: «Профессиональная среда».

**9.35** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.55** ОНТ представляет: «Народный повар».

**11.10** «Видели видео?».

**13.40, 16.20** Т/с **«ДОМ НА КРАЮ ЛЕСА».**

**17.40** «Три аккорда». Новый сезон. Финал.

**18.20** «Три аккорда» Новый сезон. Финал. Продолжение.

**20.00** Контуры.

**21.20** Юбилей Софии Ротару на музыкальном фестивале «Жара».

**23.20** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.40** Х/ф **«ПУРГА».**

## СТВ

**6.30, 0.30** «Странное дело».

**8.15** «Великие тайны».

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00, 22.05** Документальный спецпроект.

**12.40, 13.40, 16.40** Т/с **«СПЕЦЫ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**23.00** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Мультфильмы.

**7.00** Х/ф **«КУРЬЕР».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10** Т/с **«СМЕРТЬ ШПИОНАМ. КРЫМ».**

**12.25, 16.15** Т/с **«СМЕРТЬ ШПИОНАМ. СКРЫТЫЙ ВРАГ».**

**17.10, 19.30** Т/с **«СМЕРТЬ ШПИОНАМ. ЛИСЬЯ НОРА».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**22.25, 1.00** Т/с **«СМЕРТЬ ШПИОНАМ. УДАРНАЯ ВОЛНА».**

**3.10** Т/с **«СМЕРТЬ ШПИОНАМ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.05** «Наукомания».

**6.40** «50 рецептов первого».

**7.15** «Кто в доме хозяин?».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.50** Беларусы.

**9.20** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Первая передача».

**10.50** «Чудо техники».

**11.40** «Дачный ответ».

**12.35** Истории спасения.

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** Х/ф **«ЦВЕТЫ ЗЛА».**

**16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.30** Ты не поверишь!

**22.30** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«НЕСЧАСТНЫЙ СЛУЧАЙ».**

**10.25, 11.30** Х/ф **«НЕ ОТПУСКАЙ МЕНЯ».**

**11.00** ВЕСТИ.

**14.35** Х/ф **«НИ К СЕЛУ, НИ К ГОРОДУ…».**

**18.15** ПРЕМЬЕРА. «Всероссийский открытый телевизионный конкурс юных талантов «Синяя Птица».

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.05** «В людях с Вадимом Щегловым».

**21.45** Х/ф **«ТЕЧЕТ РЕКА ВОЛГА».**

**23.20** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.55** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**6.50** Чикаго. **8.45** Любимцы Америки. **10.30** Семь жизней. **12.40** 1+1. **14.40** Лучше не бывает. **17.10** Библиотекарь: В поисках копья судьбы. **19.00** Лара Крофт: Колыбель жизни. **21.00** Мистер и миссис Смит. **23.10, 5.00** Афера Томаса Крауна. **1.05** Чужой билет. **2.55** Быть Астрид Линдгрен.

### TV1000 ACTION

**7.50** Голодный кролик атакует. **9.40** Дальше по коридору. **11.20** Ларго Винч 2: Заговор в Бирме. **13.20** Полиция Майами: Отдел нравов. **15.40** Обитель зла. **17.25** Обитель зла 2: Апокалипсис. **19.00** Обитель зла 3. **20.35** Обитель зла 4: Жизнь после смерти. **22.10** Обитель зла: Возмездие. **23.40** Петля времени. **1.40** 24 часа на жизнь. **3.25** Ничего себе поездочка. **5.10** Нечто.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**8.30** Бабло. **10.10** Курьер из «Рая». **11.50** Каникулы строгого режима. **13.50** Мне не больно. **15.45** Ирония судьбы. Продолжение. **17.50** Выкрутасы. **19.40** На крючке! **21.15** Свадьба по обмену. **23.00** Саранча. **1.05** Сокровища О.К. **2.55** Zолушка. **4.20** Одной левой. **5.45** Час пик.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **7.45** «Новый день». **8.15** Х/ф **«РОБИН ГУД, ИЛИ МЛАДЕНЕЦ НА 30 МЛН $». 10.45** Х/ф **«ТЕМНЫЙ МИР». 13.00** Х/ф **«ТЕМНЫЙ МИР: РАВНОВЕСИЕ». 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 22.00** Т/с **«ГОГОЛЬ». 23.00** Х/ф **«ГОСТИ». 0.45** Х/ф **«РАССВЕТ». 2.15, 3.00, 3.45, 4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ДЕЛО БЫЛО НА КУБАНИ». 12.00, 20.00** Т/с **«НОЧНЫЕ ЛАСТОЧКИ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ТАТЬЯНИНА НОЧЬ». 14.00, 22.00** Т/с **«Я –ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ. ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КАИНА». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«НА ГЛУБИНЕ». 0.00, 1.00** Т/с **«НЕ ВМЕСТЕ». 2.00, 3.00** Т/с **«ДЫШИ СО МНОЙ. СЧАСТЬЕ ВЗАЙМЫ». 4.00** Т/с **«У КАЖДОГО СВОЯ ВОЙНА». 6.00** Т/с **«Я –ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ. СТАРЫЕ СЧЕТЫ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.55** Х/ф **«НЕСМОТРЯ НИ НА ЧТО». 3.20** Х/ф **«ВСЕ О МУЖЧИНАХ». 4.45** Х/ф **«БЕЛОЕ ВИНО ИЗ БАББУДОЙУ». 6.40** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ ТЕСС». 8.30** Х/ф **«ЗАМУЖ НА ДВА ДНЯ». 10.35** Х/ф **«РОЖДЕСТВО С НЕУДАЧНИКАМИ». 12.25** Х/ф **«ЛЮБОВЬ БЕЗ ПЕРЕСАДОК». 14.20** Х/ф **«ВАМПИРСКИЙ ЗАСОС». 15.50** Х/ф **«БОЛЬШОЙ ПАПА». 17.35** Х/ф **«КРУТОЙ И ЦЫПОЧКИ». 19.30** Х/ф **«ОБЕЩАТЬ –НЕ ЗНАЧИТ ЖЕНИТЬСЯ». 21.55** Х/ф **«ЭТО ВСЕ ОНА». 23.45** Х/ф **«НИНДЗЯ ИЗ БЕВЕРЛИ ХИЛЛЗ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.45, 1.45** Т/с **«ВСПОМНИТЬ ВСЁ». 2.45, 4.30, 5.30, 6.30, 7.35** Т/с **«КРИК СОВЫ». 8.35, 9.45, 10.45, 11.50, 12.55** Т/с **«ВРЕМЕННО НЕДОСТУПЕН». 13.55, 14.50, 15.40, 16.35, 17.30, 18.20, 19.15, 20.05** Т/с **«ЛИКВИДАЦИЯ». 21.00, 22.00, 23.05** Т/с **«ДАЛЕКО ОТ ВОЙНЫ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.45** «ЛОВИ МОМЕНТ». **9.10** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **12.05** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.55** Х/ф **«МАРКО МАКАКО». 14.40, 0.05** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **16.30** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА 2». 19.00** Фэнтези «УЖАСТИКИ». **21.00** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **22.05** Реалити-шоу «ПАРЫ НА КАНАРЫ». **23.05** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **1.00** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **1.55** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Хоккей. КХЛ. Динамо-Минск –ЦСКА (Москва). **8.50** Фигурное катание. Гран-при. Москва. Пары. Произвольная программа. **10.20** Плавание. Лига ISL. Финал. **12.25** Пит-стоп. **12.55** Игры «на вырост». **13.30** Футбол. Беларусбанк –Чемпионат Беларуси. 29-й тур. Онлайн игрового дня. **16.00** Спорт-центр. **17.50** Фигурное катание. Гран-при. Москва. Гала-шоу. **19.20, 22.05** Футбол. Чемпионат Англии. В перерыве Спорт-центр. **21.20** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **0.05** Итоги недели.

### EUROSPORT

**1.35, 15.05, 16.15, 19.45** Горные лыжи. Кубок мира. Леви. Женщины. Слалом. 2-я попытка. **2.30, 6.00, 13.15, 16.50** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Висла. HS 134. Команды. **3.30, 7.00, 8.00, 10.30** Снукер. Northern Ireland Open. 1/2 финала. **5.00** Автогонки. World Endurance. Бахрейн. Обзор. **9.00** Горные лыжи. Кубок мира. Зёльден. Мужчины. Слалом-гигант. 1-я попытка. **9.45** Горные лыжи. Кубок мира. Зёльден. Мужчины. Слалом-гигант. 2-я попытка. **11.30, 12.05, 14.30** Горные лыжи. Кубок мира. Леви. Женщины. Слалом. 1-я попытка. **17.50** Прыжки на лыжах с трамплина. Кубок мира. Висла. HS 134. **20.30, 21.45** Снукер. Northern Ireland Open. Финал. **21.15** Снукер. «Шестикратный». Ронни О'Салливан.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Все включено. **6.15, 17.05** Металломощики. **7.00, 17.55** Автовинтаж. **7.30, 8.00** Самообслуживание. **7.45, 10.10, 11.55, 16.30, 18.30, 23.15, 1.25, 3.50** Итоговые новости. **8.20** Это Родина твоя. **9.20, 10.40** Возвращение легенды. **9.55** Все включено. Эксклюзив. **10.30** Вторичка. **11.15, 22.25, 3.05** На «Буханке» вокруг света. **11.45, 19.50, 22.55, 3.35** Дома на колесах. **12.15, 20.10, 23.35, 4.05** Стальные парни. **13.05, 0.25** Испытание на прочность. **14.05, 1.40** Тест на «Драйве». **15.15** Эконом-тест. Эксклюзив. **15.30** Гаражная команда. **16.50, 22.00** Авто: вторые руки. **18.45** Школа внедорожного вождения. **19.20** Наезд! **19.30** Работяги. **21.00, 5.05** Поездка выходного дня. **21.30, 5.30** Норильск – Диксон. Есть рекорд! **2.40** Сити-тестер. Эксклюзив. **4.50** Автолайф.

### EXPLORE

**6.00, 9.55** Рыбалка со звездами. **6.30, 7.20, 8.10, 9.05** Речные чудовища. **10.45, 0.35** Невероятная рыбалка. **11.35** Австралийское мега-метро. **12.30, 12.55, 22.10, 22.35** Демонтаж: Новая Зеландия. **13.20, 13.50, 21.15, 21.40** Австралийские ловцы быков. **14.15, 15.00, 15.50, 16.35, 17.20, 18.10, 18.55, 19.40, 20.30** Австралийские золотоискатели. **23.00, 23.45** Ржавые тачки на прокачку. **1.30, 2.15, 2.55, 3.40** Лесные люди. **4.25** Адские грузовики. **5.15, 5.35** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.00, 5.20** Невероятные изобретения. **6.25, 7.10, 7.55, 8.40, 3.05, 3.50** Музейные тайны. **9.25, 10.10, 12.45, 13.30, 18.20** Расшифровка тайн. **11.00, 11.50** Галапагосы. **14.15, 15.05, 15.55, 16.40** Величайшие мистификации в истории. **17.30** Расшифрованные сокровища. **19.05** Новые тайны терракотовых воинов. **20.05** Операция «Золотая лихорадка». **21.00** Вена: империя, династия и мечта. **21.55** Тайны египетских пирамид. **22.50** Оружейники: искусство войны. **23.40, 0.25** Карты убийства. **1.15, 2.10** Тридцатилетняя война –Железный век. **4.30** Охота за сокровищами нацистов.

### NATURE

**6.00, 6.45, 7.35, 22.05, 22.55** Выживание в дикой природе. **8.30** Жилища животных: прирожденные инженеры. **9.30** Муравьиная гора Дэвида Аттенборо. **10.35** Как собаки и кошки захватили мир. **11.30, 12.20** Уэльс: дикая земля. **13.15** Дикая Латинская Америка. **14.10** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **15.00, 21.10** В поисках Султана. **15.55** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **16.40** Дикий штат Карнатака, Индия. **17.35, 18.30** Загадочная планета. **19.20, 20.15** Гениальные морские охотники. **23.45** Невероятные встречи с животными. **0.35** Хищные питомцы. **1.25, 5.10** Мутации погоды. **2.10** Анатомия крупнейших животных. **3.00** Ветеринар из Йоркшира. **3.45, 4.15, 4.45** Уличный ветеринар.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Сделать за один день. **6.25** Авто-SOS. **7.15, 8.05** Суперкар со свалки. **8.55** Короли рыбалки. **10.40, 11.30** Машины: Разобрать и продать. **12.20, 13.10** Настоящий суперкар. **14.00** Мегамосты. **14.55, 15.45, 16.45, 17.35, 18.30, 19.20** Горячая зона. **20.10** Эпидемии: От эболы до коронавируса. **21.00** Охотники за вирусами. **21.50** Прорыв: Борцы с вирусом. **22.40, 23.30** Прорыв. **0.20** Спецотдел по выживанию. **1.10, 2.00, 2.50, 5.15** Осушить океан: глубокое погружение. **3.35, 4.25** Национальные парки Америки.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.05, 2.00** Охота и рыбалка в. **6.30, 10.35, 14.40, 18.30, 2.30** Профессиональная рыболовная лига. **7.00, 1.05** С ружьём на плече. **7.30, 15.40, 23.30** Вкусные рецепты охотника. **8.00, 12.05, 16.10, 20.00, 0.00, 4.00** Рыбалка 360. **8.30, 12.35, 16.40, 20.30, 0.30, 4.30** Давай зарубимся! **8.45, 12.50, 20.45, 0.45, 4.45** Популярная охота. **9.00, 13.05, 16.55, 5.00** Рыбалка без границ. **9.35, 13.40, 17.30, 21.35, 1.35, 5.30** Мир рыболова. **10.05, 14.10, 18.00** Экспедиции Андрея Старкова. **11.05, 15.10, 19.00, 23.00, 3.00** Мой мир –рыбалка. **11.35, 19.30, 3.30** Вкусные рецепты рыболова. **21.00** На рыбалку с охотой. **22.35** Охота в Новом Свете.

### УСАДЬБА

**6.00, 14.05, 18.00, 22.00, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 10.35, 14.35, 18.30, 22.25, 2.40** Чай вдвоем. **6.45, 14.55, 18.50, 22.45, 2.50** Флористика. **7.00, 11.15, 19.05, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.45, 15.40, 19.40, 23.35, 3.55** Усадьбы будущего. **8.00, 12.15, 16.10, 20.10, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.35, 16.30, 20.25, 0.25, 4.35** Свечной заводик. **8.35, 12.45, 16.45, 20.40, 0.40, 4.50** С пылу с жару. **8.50, 13.05, 17.00, 20.55, 0.55, 5.05** Чудеса, диковины и сокровища. **9.20, 3.40** Травовед. **9.35, 13.35, 17.30, 21.30, 1.25, 5.35** Моя крепость. **10.05** Огород круглый год. **10.55** Правила стройки. **15.10** Огород круглый год. **1.55** Квас.

# Як дапамагалі вязням вілейскай турмы і чаму не куплялі каскі пажарным

## Глядзіце, пра што пісаў часопіс «Życie Wilejskie» у 1926 годзе

ВІЛЕЙКА

**Прапануем вам матэрыялы польскамоўнага выдання «Życie Wilejskie: pismo tygodniowe dla wszystkich» – «Вілейскае жыццё: штотыднёвы часопіс для ўсіх». Публікацыі былі размешчаны ў №4 ад 7 лютага і № 10 ад 17 сакавіка 1926 года.**



Будынак былой турмы ў Вілейцы.

Фота з Вікіпедыі.

### Гастролі тэатра «Рэдута» ў Вілейцы

«Праз пару месяцаў «Рэдута» зноў наведала Вілейку з пастаноўкай меладрамы «Сёстры».

**Яўка гледачоў была слабой, спектакль – добрым.**

6 сакавіка «Рэдута» з'ехала ў Маладзечна».

### Пра бюджэт магістрата мястэчка Вілейка

«Праўленне Вілейкі падрыхтавала бюджэт на 1926 год на агульную суму ў 70 000 злотых. Школьны бюджэт склаў 14 800 злотых, з якіх 6000 злотых прызначана на будаўніцтва новай пачатковай школы. Праўленне Вілейкі ўжо прадставіла бюджэт на зацвярджэнне павятовага аддзела».

### Магістрат Вілейкі для пажарнай часці

«На спецыяльным сходзе, прысвечаным справам пажарнай часці, праўленне Вілейкі ўнесла ў каштарыс бюджэту на 1926 год пазіцыю «13 000 злотых на патрэбы часці».

Праўленне мястэчка таксама, разлічваючы на дапамогу сеймікаў, пастанавіла не абкладаць насельніцтва спецыяльным падаткам на тушэнне пажараў, мяркуючы, што крытычны фінансавы стан і так ужо з'яўляецца праблемай для жыхароў. Таксама было вырашана не абцяжарваць бюджэт пажарнай часці лішнімі выдаткамі, такімі як, напрыклад, купля касак для пажарных, і адкласці гэта да лепшага моманту».

### Таварыства апекі над вязнямі

«У канцы 1924 гады група асоб з ліку вілейскай інтэлігенцыі пад кіраўніцтвам шаноўнага дэкана-ксяндза **Снежкі** арганізавала таварыства апекі над зняволенымі, якое ў другой палове 1925 года было легалізавана Міністэрствам юстыцыі і ператворана ў турэмны Патранат, які ахоплівае тэрыторыю пяці паветаў, а менавіта: Вілейскага, Дзісенскага, Дунілавіцкага, Стаўбцоўскага і Ашмянскага.

Мэта таварыства – забяспечыць матэрыяльнай дапамогай і прытулкам асуджаных, якія вызваліліся з вілейскай турмы, а таксама тых, хто не мае сродкаў, каб вярнуцца ў сям'ю.

**Турэмны Патранат, які налічвае 60 чалавек і карыстаецца вялікай падтрымкай мясцовай грамадскасці, у 1923 годзе арганізаваў у будынку турмы некалькі лекцый з паказам слайдаў на дыяпраектары.**

На Каляды навучэнцамі пачатковай школы была пастаўлена сцэнка «Ясельскі». Акрамя таго, на Вялікдзень і Каляды праўленне Патранату дзеліцца са зняволенымі свяцонкай і аплаткамі.

У святочныя дні ў турме дэканам-ксяндзом праводзяцца навучальныя службы. Святочныя дапаможнікі выдзяляюць усім зняволеным, нягледзячы на веравызнанне. Члены Патранату перыядычна наведваюць зняволеных, асабліва клапоцяцца пра хворых, якія знаходзяцца ў турэмным шпіталі. У цяперашні час Патранат прыступіў да арганізацыі турэмнай бібліятэкі, для якой жанчыны-члены Патранату збіраюць кнігі. Вызваленым зняволеным прадастаўлена 49 грашовых дапамог.

Пра тое, наколькі дзейнасць Патранату важная і карысная для зняволеных, сведчыць даведка за папярэдні год, якая дэманструе паступленні ў памеры 1643 злотых 76 грошаў, расходы на агульную суму 1232 злотых 17 грошаў і рэшту на 1 студзеня бягучага года ў суме 411 злотых 59 грошаў».

### Польская бібліятэка ў Вілейцы

«Групе жанчын з Вілейкі прыйшла ў галаву ідэя стварэння публічнай бібліятэкі. Гэта цудоўны намер, і яшчэ больш цудоўна тое, што гэтай бібліятэкай зможа карыстацца ўсё насельніцтва Вілейкі. Шмат хто з нас даведаўся, што такое кніга, а асабліва кніга, умела падабраная пад узровень разумовага развіцця. У колькіх выпадках і для колькіх людзей бібліятэчная кніга замяніла школьную адукацыю.

**Колькі звестак з гісторыі, прыроды і розных апісанняў людзі набылі дзякуючы кнізе з бібліятэкі. Кніга – сапраўдны сябар чалавека, крыніца задавальнення, адпачынак пасля цяжкай паўсядзённай працы.**

У заходніх краінах грамадства ярка адчувае дабратворны ўплыў кніг, бо пасля паўсядзённай працы, вечарам, рабочы ці фермер садзіцца разам са сваёй сям'ёй, каб пачытаць часопісы і кнігі, і не лічыць гэта прывілеем толькі навукоўцаў. І таму яму адразу становіцца прасцей жыць, бо менавіта з кніг ён даведваецца, як уладкаваць сваё жыццё, каб заставацца здаровым, мець больш даход і магчымасць выкарыстоўваць культурныя дасягненні сваёй краіны.

І калі б мы лепш разумелі карысць кнігі, было б менш бяздзейнасці і беднасці. У рэшце рэшт, з кніг працоўны можа даведацца, як жывуць рабочыя ў іншых краінах, як яны працуюць, як ім плацяць, што для іх робяць, каб аблегчыць іх долю. З кніг селянін пазнае, як вядуць сельскую гаспадарку ў іншых краінах, як можна выкарыстоўваць зямлю, каб атрымаць добры ўраджай, як палепшыць племянную гаспадарку, як зрабіць жыццё не толькі памяркоўным, але і камфортным. Калі б наш селянін хоць трохі цікавіўся жыццём галандскага фермера, а рабочы – жыццём амерыканскага рабочага, то жыццё не было б такім складаным, асвяцілася б яркімі і цёплымі прамянямі. З кніг можна даведацца пра існаванне іншых краін, пра іх сацыяльнае жыццё, культуру, звычаі, нават калі чалавек ніколі не пакідаў сваю радзіму».

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК па матэрыялах Вілейскай суполкі Таварыства аховы помнікаў імя Аляксея Лужынскага.**

---

● КАЛЯНДАР

**13 ЛІСТАПАДА**

**1806.** У Вільні нарадзілася **Эмілія Плятэр.** Удзельніца паўстання 1830 – 1831 гадоў. Нацыянальная гераіня Беларусі, Польшчы, Літвы.



**14 ЛІСТАПАДА**

**1910.** У Мінску нарадзіўся **Ежы Путрамант,** польскі пісьменнік і грамадскі дзеяч. У 1939-40 працаваў у вілейскай абласной газеце «Сялянская праўда».

**15 ЛІСТАПАДА**

**1985.** У Беларусі нарадзіўся 10-мільённы жыхар.

**16 ЛІСТАПАДА**

**1964.** Першы пленум ЦК КПСС пасля змяшчэння Мікіты Хрушчова. Рашэнне аб аб'яднанні прамысловых і сельскіх партыйных арганізацый і савецкіх органаў.

**17 ЛІСТАПАДА**

**1906.** У вёсцы Гірбінята, цяпер Валожынскі раён, нарадзіўся **Янка Багдановіч,** беларускі празаік, паэт, публіцыст, мемуарыст. Памёр у 1990 г. у Вільні.

**18 ЛІСТАПАДА**

**1952.** У вёсцы Дубашы Валожынскага раёна нарадзіўся **Эдвард Зайкоўскі,** беларускі археолаг, кандыдат гістарычных навук. Даследуе помнікі неаліту і бронзавага веку, паганскія вераванні і першабытнае мастацтва на тэрыторыі Беларусі, старажытную кулінарыю.



**19 ЛІСТАПАДА**

**1939.** Наваградскае ваяводства пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі і БССР ператворанае ў Навагрудскую вобласць. У вобласць уваходзіў Валожынскі павет. У хуткім часе перайменавана ў Баранавіцкую вобласць. Праіснавала да 1954 года, калі яе тэрыторыі былі падзеленыя між Брэсцкай, Гродзенскай, Маладзечанскай і Мінскай абласцямі.

**1982.** Футбольная каманда «Дынама» (Мінск) стала чэмпіёнам СССР.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# «Пра ўдзел у пратэстах не шкадую»

## Адлічаная з лінгвістычнага ўніверсітэта віляйчанка расказала сваю гісторыю

ВІЛЕЙКА

**Віляйчанка Насця Вайтовіч сёлета скончыла гімназію «Логас» і паступіла на бюджэт у Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт. Мела шмат планаў на вывучэнне замежнай мовы, другую вышэйшую адукацыю, але…**

Па словах нашай зямлячкі, яе дэталёва расплананавае жыццё зламалася ў адно імгненне. У канцы кастрычніка Насцю выключылі з універсітэта. І ўсё ж дзяўчына прызнаецца: калі б была магчымасць адкруціць жыццё назад, яна нічога б у сваіх паводзінах не змяніла.

### У гімназіі была выдатніцай і актывісткай

– У гімназіі жыццё было яркім і насычаным. Я не толькі выдатна вучылася. Удзельнічала ў алімпіядах, КВЗ, танцавала. Карацей, была актывісткай, – прыгадвае дзяўчына школьныя гады.

Праўда, палітыкай Насця цікавілася ўжо тады. Але найбольш актыўна пачала дзейнічаць летам гэтага года: расклейвала ўлёткі, ездзіла па вёсках з агітацыяй.

Калі ж паступіла ў лінгвістычны, дарэчы, без цяжкасцей і з вялікім запасам балаў, ад другога тыдня вучобы далучылася да студэнцкіх пратэсных акцый:

– Пазнаёмілася з палітычна актыўнымі хлопцамі і дзяўчатамі. Разам мы запісалі відэазварот да адміністрацыі ўніверсітэта, на які кіраўніцтва не адрэагавала, – дзеліцца былая студэнтка.

### Зламалі рабро падчас патасоўкі з АМАПам

Былі і іншыя акцыі. Студэнты спявалі песні, стаялі з кветкамі і белымі аркушамі. Часам да студэнтаў далучаліся некаторыя выкладчыкі. За ўдзел у мірных акцыях дзяўчына атрымала вымову ва ўніверсітэце. Але прызнаецца: пачуццё гонару было куды мацнейшым за крыўду. Таму Насця працягнула ўдзельнічаць у мірных пратэстах.

Падчас акцыі 26 кастрычніка мая суразмоўца трапіла ў бальніцу. Вось як гэта адбылося:

– У гэты дзень была чарговая студэнцкая мірная акцыя, толькі больш маштабная. Удзельнічала некалькі ВНУ. Мы з аднакурснікамі прыйшлі да юрыдычнага корпуса БДУ. Калі прыехаў АМАП, усталі ў сцэпку. АМАП пачаў адцясняць нас з дарогі да машын, што стаялі побач. У выніку мяне натоўпам прыціснула да адной з машын. Мне паламалі рабро. Так я апынулася ў бальніцы. Сёння ўжо адчуваю сябе нармальна.

### З пачуццяў быў толькі страх

Пра сваё адлічэнне Насця даведалася ад дэкана факультэта. Той уручыў дзяўчыне загад для азнаямлення і подпісу і сказаў, што яму вельмі шкада. Свае пачуцці ў той момант віляйчанка памятае і сёння:

– З пачуццяў быў толькі страх. Я ж распланавала сабе жыццё наперад: думала, буду вучыцца, авалодаю замежнымі мовамі, пасля атрымаю другую вышэйшую адукацыю на юрфаку. І тут, у адно імгненне, маё дэтальна распланаванае жыццё паламалася. Я вельмі ўдзячная блізкім, сям'і за падтрымку і дапамогу. Удзячная аднагрупнікам, якія раздзяляюць мае погляды і сёння дабіваюцца майго аднаўлення ва ўніверсітэце.



Фота з асабістага архіва.

Віляйчанка Насця Вайтовіч: «Той, хто трымаецца нейтральнай пазіцыі ў сітуацыі несправядлівасці, падтрымлівае бок прыгнятальніка».

### Вельмі б не хацелася з'язджаць з Беларусі

Цяпер Насця жыве ў Мінску. Кажа, з'язджаць з Беларусі вельмі б не хацела, проста таму, што гэта яе радзіма. Спрабуе пачаць вучобу за мяжой дыстанцыйна. Плануе прайсці IT-курсы, далей займацца замежнымі мовамі.

– Калі б мне далі магчымасць усё памяняць ад 1 верасня, я б нічога не мяняла. Пра свае ўчынкі не шкадую. Лічу так: той, хто трымаецца нейтральнай пазіцыі ў сітуацыі несправядлівасці, падтрымлівае бок прыгнятальніка, – перакананая суразмоўца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Справу актывіста суд будзе разглядаць чацвёрты раз

## Гродзенскі абласны суд адмяніў апраўдальны прыгавор

СМАРГОНЬ

**10 верасня ў Смаргонскім раённым судзе разглядалі справу актывіста Аляксандра Паплаўскага. Тады смаргонца, які ўжо адседзеў па артыкуле за дробнае хуліганства сем сутак, суддзя Дзмітрый Дамарад цалкам апраўдаў.**

Але па пратэсце пракурора і скарзе начальніка РАУС абласны суд адмяніў пастанову Дамарада. Справу будуць разглядаць у чацвёрты раз, паведаміў карэспандэнту смаргонскі абаронца **Аляксандр Дзергачоў.**

Прыгадаем гісторыю з судамі Паплаўскага.

### 1 пасяджэнне

5 жніўня на выбарчы ўчастак №16 у Смаргоні прыйшоў Аляксандр Паплаўскі, каб азнаёміцца з пратаколам за 4 жніўня. Паплаўскі хацеў сфатаграфаваць вынікі датэрміновага галасавання за 4 жніўня. Падчас фатаграфавання ў Паплаўскага адбыўся канфлікт са старшынёй камісіі **Аленай Атцецкай**. Гэта трапіла на відэа, якое здымаў сам Паплаўскі.

Пасля старшыня Атцецкая напісала заяву на Паплаўскага, які нібыта замінаў працы выбарчай камісіі. 7 жніўня Аляксандра Паплаўскага асудзілі за дробнае хуліганства (арт. 17.1 КоАП). Аляксандру далі 7 сутак. Старшынёй суда была **Людміла Пятрова**.

### 2 пасяджэнне

Аляксандр Паплаўскі не пагадзіўся з прыгаворам і абскардзіў рашэнне раённага суда ў Гродзенскім абласным. Абскарджанне разглядалі на пасяджэнні без Паплаўскага. У выніку пастановай абласнога суда ад 24 жніўня пастанову Смаргонскага суда адмянілі і справу накіравалі на разгляд новаму смаргонскаму суддзі – **Дзмітрыю Дамараду**.

### 3 пасяджэнне

Яно адбылося зноў у Смаргонскім судзе 10 верасня. Справу вёў суддзя Дзмітрый Дамарад. Па хадайніцтве Аляксандра вёў справу па-беларуску.

**У выніку суддзя прыйшоў да высновы, што справу трэба спыніць з прычыны адсутнасці ў дзеяннях Аляксандра Паплаўскага складу адміністрацыйнага правапарушэння.**

Аляксандра Паплаўскага цалкам апраўдалі.

### 4 пасяджэнне

Яно адбудзецца ў бліжэйшы час у Смаргонскім раённым судзе. Па пратэсце пракурора і скарзе начальніка РАУС абласны суд адмяніў пастанову Дамарада. Цяпер справу будзе разглядаць суддзя **Боландзь**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Шаліноўкі, абхінанкі, пуховыя і набіваныя...

## У беларускамоўнай групе зладзілі фотапраект «Бабуліна хустка»

СМАРГОНЬ

**У беларускамоўнай групе смаргонскага садка №8 з чатырохгадовымі выхаванцамі і іх бацькамі ўвасобілі праект «Бабуліна хустка».**

Неяк аднойчы падчас гульні з лялькамі дзеці заўважылі, што лялька ў хустцы выглядае як бабулька. І, сапраўды, у сучасным жыцці дзеці часцей бачаць у хустках сталых жанчын.

**Чытаючы казкі, заўважаюць, што бабуля заўсёды намаляваная ў хустачцы. Так у малых фарміруюцца пэўныя вобразы і стэрэатыпы.**



### Гісторыя ўбору: Ад наміткі да хусткі

Раней хустка займала вельмі важнае месца сярод жаночага адзення. Яна дадавала прывабнасці, жаноцкасці і завершанасці вобразу, дэманстравала не толькі густ уладальніцы, але і статус, заможнасць, рэгіянальныя адметнасці мясцовасці.

**Прычым хусткі дзяўчынкі насілі ўжо з маленства, паступова авалодваючы асаблівасцямі іх выкарыстання.**

Каб пашырыць уяўленні выхаванцаў сваёй групы пра гэты незаслужана забыты прадмет жаночага гардэробу, узнікла ідэя стварыць фотапраект «Бабуліна хустка».

Мы звярнуліся да гісторыі хусткі і даведаліся, што спярша беларускі насілі наміткі. Намітка ўяўляе сабой паласу з вельмі тонкага белага кужэльнага льнянога палатна, радзей – з канаплянай або шаўковай тканіны, шырынёй 30-70 сантыметраў і даўжынёй ад трох да пяці метраў. Яна пэўным чынам завязвалася вакол галавы. Завязваць наміткі было доўга і складана. Таму паступова жанчыны перайшлі да хустак, спачатку льняных або даматканых, а пазней да фабрычных крамных.







Разам з выхавальніцай дашкольнікі зладзілі фотасесію ў хустках.

### Як праходзіла фотасесія

Дзяўчаты і жанчыны насілі самыя розныя хусткі: паўлапасадскія і баранаўскія, шаліноўкі і хусткі-абхінанкі, пуховыя і набіваныя, вязаныя кручком і шаўковыя.

**Хусткамі ўпрыгожвалі галаву і накідвалі іх на плечы.**

Каб зацікавіць дзяцей беларускамоўнай групы гісторыяй хусткі, мы зладзілі серыю фотасесій, галоўным акцэнтам якіх былі бабуліны хусткі. Дзяўчынкі па чарзе прымяралі хусткі, дэманструючы розныя вобразы – старажытныя і сучасныя. У працэсе фотасесій усе дзеці з задавальненнем прымалі непасрэдны ўдзел. Хтосьці дапамагаў апранаць мадэляў, іншыя падавалі неабходныя атрыбуты. А яшчэ дзеці задавалі шмат пытанняў наконт выбраных вобразаў.

**Выхаванцам было цікава, яны атрымалі новыя веды і станоўчыя эмоцыі.**

Цяпер хусткі з'яўляюцца для дзяцей больш знаёмымі і выдатна адаптуюцца ў сучасным гардэробе дзяўчынак.

**Эдзіта БРАНЦЭВІЧ,**
**выхавальніца дашкольнай адукацыі ясляў-сада N8 горада Смаргоні.**
**Фота аўтара.**

# «Заглушылі ў нас культуру

## Былы дырэктар драмтэатра Юрый Крывенькі расказаў




Фота Настассі УТКІНАЙ.

У Мінскім абласным драмтэатры Юрый Крывенькі працаваў ад 2009 года.

**Ад 2 лістапада Юрый Крывенькі вызваліў пасаду дырэктара Мінскага абласнога драматычнага тэатра пасля 11 сезонаў працы. Сёлета разам з калектывам ён рыхтаваўся святкаваць 30-гадовы юбілей установы, але атрымалася так, што былы кіраўнік і шматдзетны бацька шукае новую працу.**

Мы паразмаўлялі з Юрыем Паўлавічам пра тое, як культура ўплывае на грамадства, асэнсаванасць і задаволенасць жыццём.

### «Які ж ты дырэктар, у цябе ні жывата, ні лысіны»

**– Ці было нечакана, што не працягнуць кантракт?**

– Пры сустрэчы ў кіраўніцтва было жаданне са мной яшчэ папрацаваць, прынамсі да юбілею тэатра, які будзе ў лютым. Ёсць вялікія заслугі ў калектыву, які захаваўся. І ў размовах абмяркоўвалі, што папрацуем. Пасля ўсё кардынальна змянілася.

**– Вы мэтанакіравана ішлі ў творчую сферу? З дзяцінства бачылі сябе ў творчым асяродку?**

– У дзяцінстве расказвалі пра прафесіі доктара, педагога так, што ў мяне склалася ўражанне, нібы гэта спецыялісты, якія выходзяць з дынастый, выхоўваюцца з сям'і.

У культуру я трапіў выпадкова. У нашу 11 школу прыйшлі з цэнтральнай музычнай школы, мы гурбай вырашылі пайсці. Скончыў музычную школу па класу баяна. Пасля спадабалася гучанне духавых інструментаў. У апошні год школы паралельна займаўся ў музвучылішчы, паступіў.

Заўсёды трапляў да добрых педагогаў – тых, якія вучылі любіць тое, чым займаліся самі. Пасля паступіў у Акадэмію музыкі. Спачатку бачыў сябе вайсковым дырыжорам – эстэтыка, прыгажосць, парадная форма. Гэта нейкая магія, якая зачароўвае. Атрымалася па-іншаму. Дырэктар **Рыгор Сарока** прапанаваў падчас вучобы прыязджаць і працаваць у музвучылішчы.

У сферы культуры ў Маладзечне добрыя традыцыі. Раней было прынята, каб майстры гадавалі вучняў, рыхтавалі змену. Прапанавалі паспрабаваць сілы на пасадзе кіраўніка музычнай школы духавых інструментаў. Там быў добры калектыў, шмат выступленняў, фестываляў, укамплектавалі добрую базу.

Пасля прапанавалі ўзначаліць тэатр – а чаму б і не? Тым больш, атрымліваў яшчэ эканамічную адукацыю завочна, сіл хапала, сям'я ўжо была, хацелася нечага дабіцца ў жыцці. У тэатры калектыў прыняў з першых дзён. Праца была абсалютна новай. Той час быў багаты на цудоўных людзей, якія з задавальненнем аддавалі досвед, ад майстра да майстра, ад душы да душы.

Трэба было наладжваць сувязі, знаёміцца з рэжысёрамі, дырэктарамі. І яны ўсё смяяліся: «Які ж ты дырэктар, у цябе ні жывата, ні лысіны». У сваю кагорту мяне прынялі хутка, расказалі шмат сакрэтаў. Вельмі значнай была падтрымка дырэктара «Батлейкі» **Алы Паляковай**, яна многае падказвала. Праз сувязі знаёміўся з кіраўнікамі, так і атрымалася пасля супрацоўнічаць з украінскімі і расійскімі тэатраламі. Калегі дзяліліся, як знаходзіць баланс паміж адміністрацыйным рэсурсам і багатай творчай праслойкай. Кіраўнік аберагае калектыў ад знешняга ціску, дае свабодна дыхаць.

У тэатры вельмі шмат асоб. Цяпер у трупе 21 акцёр, і яны ўсе неабходныя тэатру. Нельга без вядучых майстраў. Вялікая каштоўнасць, што ў тэатры працуе **Алег Чэчанеў, Сяргей Карзей, Алена Рахмангулава, Ірына Камышава, Таццяна Карпец, Людміла Рошчына**. Старажылы **Эмілія Ларыёнава, Барыс Донін, Іра Кляпацкая**. Маладыя акцёры **Павел Святоха, Мікіта Богдан, Наталля Скарынка, Кацярына Шчэрбач, Яўгенія Стацэнка**, якія ўжо прыкіпелі да тэатра. **Андрыян Барткевіч, Павел Сцяпанаў, Дзяніс Фешчанка** і іншыя. Яны ўсе розныя, але кожны на сваім месцы, са сваімі амбіцыямі. Ім усім ёсць што расказаць, хаця наш менталітэт не дае магчымасці раскрыцца. Акцёры з суседніх краін больш дзеляцца ўнутраным светам.

У калектыве між сабой стасункі, як у сям'і – калі трэба, абдымуць, падбадзёраць, калі трэба – пакрытыкуюць. На гастролях яны робяць так, што зала замірае. Яны могуць зрабіць тое, што не могуць іншыя – дзве гадзіны трымаюць у напружанні, ты разам з імі дыхаеш, а пасля сыходзіш у разважаннях. На гастролях нас вельмі добра прымаюць, а ў Маладзечне мы свае. На словы мы ўсе скупыя, па сабе заўважаю. Іншы раз пахваліць, сказаць добрае слова – такая каштоўнасць, якая запылілася. Каб такі пыл не з'яўляўся, павінна быць культура ва ўсіх праявах – тэатр, музыка, жывапіс. Каб людзі не чарсцвелі.

### Каб добра працаваць, трэба адчуваць сябе спакойна і гарманічна

**– Ці адчуваеце вы па жыхарах Маладзечна, што яны жывуць у асаблівым культурным асяродку?**

– Раней адчуваў, апошнія два гады не адчуваю. Мне падаецца, што заглушылі ў нас культуру ў горадзе. Таленавітых людзей вельмі шмат, але што трэба рабіць, каб усё гэта развівалася. Здаецца, у нас больш часу – пазней кладзёмся, раней устаём, больш чытаем, штосьці шукаем, але нечага не адбываецца.

Каб разабрацца, чаму штосьці не атрымліваецца, трэба абмяркоўваць. Праўда нараджаецца ў размове. У многіх грамадствах, калі ёсць нейкі выклік, збіраецца рада старэйшын. Тыя людзі, якія маюць досвед, аўтарытэт, вырашалі, што трэба рабіць, і да іх прыслухоўваліся. Думаю, што прыйшоў час прыслухацца і нам. У нас ёсць людзі, якія вельмі шмат зрабілі для Маладзечна – з улады,

# ў горадзе»

## пра творчасць, калектыў, культуру

вытворчасці, культуры, адукацыі. Сабрацца і паразмаўляць, што так, што не так.

Звонку ў нас усё чыста і прыгожа, а ўнутраны складнік няпросты. Мы ўсе ў працы і клопатах, так і жыццё праходзіць. Добра, калі ў чалавека ёсць сям'я і блізкія людзі. Але жыццё, наладжанае толькі на тое, каб зарабіць грошы, – гэта неяк не зусім правільна, пэўна.

### Павінен быць час для іншага боку жыцця

**– Культура патрабуе, каб на яе выдаткоўвалі грошы. Але чым гэта апраўдана, як культура ўплывае на жыхароў?**

– У кожнага свае культурныя патрэбы. Тэатр, канцэрт, кнігу ў бібліятэцы пачытаць. І назаўтра чалавек ідзе задаволены на працу, зусім з іншым настроем, і працуе зусім па-іншаму. Каб чалавек добра працаваў, ён павінен адчуваць сябе спакойна і гарманічна. Мы ж то не дасыпаем, то недаядаем, мала ходзім.

Старэйшае пакаленне ў нас забыта, ім жа няшмат трэба – камунікацыя. Яны ж гэтае жыццё будавалі. Усё, што адбываецца, ідзе ад іх. А цяпер яны крыху на ўзбочыне.

Культура – гэта развіццё нацыі. Тое, што мы хочам убачыць у будучыні. Бацькі хочуць, каб дзеці развіваліся, і хаця гурткі нятанныя, ты бачыш, куды гэта ідзе. Чалавек павінен развівацца шматбакова. Мастацкая або музычная школа – гэта норма, без гэтага нельга, калі мы хочам ганарыцца сваёй краінай і жыхарамі. У кожнага чалавека, які чагосьці дабіўся, будзе гэтае зерне культуры.

Добрае жыццё складаецца з добрых дэталяў. Жыццё – гэта таксама ў нейкім сэнсе механізм, які мы складаем. Кожная добрая дэталька дае агульную якасць.

Вельмі не хапае камунікацыі. Здаецца, мы шмат камунікуем, але паслухайце, пра што гавораць людзі ў піцэрыі, у парку. Для мяне паказальнай была паездка ва Украіну. Мы кажам, што ў нас чыста і прыгожа – гэта добра, але яно проста павінна быць так.

Ва Украіне былі праблемы з дарогамі, напрыклад, хаця яны гэта вырашаюць. Але ідзеш па скверы, дзядкі гуляюць у шахматы, даміно, хтосьці малюе. Вяртаешся, і не разумееш, што не так. А пасля асэнсоўваеш, што ўнутраны складнік зусім іншы – свабода, настрой. Калі выдыхнуў – і табе добра. У нас жа ўсё зацiснута, на нейкім уздыху, незразумелы дыскамфорт.

Мы ўсе прыходзім на працу рабіць сваю справу, але павінен быць час для іншага боку жыцця, сям'і, іншых уражанняў. Не ва ўсіх атрымліваецца, таму і сем'і распадаюцца. Вось сабраць бы пары, якія па пяць, дзесяць гадоў разам, і спытацца: а калі вы апошні раз хадзілі ў кіно, дарылі адно аднаму падарункі, шапталі прыемнае; калі здараліся спрэчкі, то як вырашалі? І калі распытацца, то там проста каравул, і гэта ў большасці.

**– Падчас вашага кіраўніцтва было шмат тэатральных эксперыментаў – опера, спектакль пра прастытутак, пастаноўка па творы Алексіевіч. Ці апраўдана гэта было?**

– Калі б былі неапраўданыя, глядач бы не прыходзіў. Формулу тэатра я выпрацоўваў увесь час – як вытрымаць баланс паміж забаўляннем і павучаннем. І цяпер відаць, што ўсё гэта было пастаўлена своечасова. Тэатр створаны для таго, каб чалавек у сабе пакапаўся – не органы ці нехта яшчэ, а сам чалавек. Кожны ж сам сабе галоўны суддзя.

**– Наколькі складана было працаваць з фінансавай часткай?**

– З гэтым і далей будзе складана. Можна патрабаваць, каб тэатр зарабляў. Але ёсць шмат нюансаў, якія нельга пралічыць. У нас усё складвалася, каб гэты сезон фінансава быў вельмі добры. Падрыхтавалі два шыкоўныя матэрыялы да 75-годдзя перамогі. Былі запланаваныя вялікія гастролі, дагаворы. Быў добры задзел, каб юбілей спраўляць у добрым настроі. Але здарылася пандэмія, а лыжка дарагая да абеду. Як знаходка была магчымасць паказваць спектаклі ў анлайн-рэжыме. Так, заробкі невысокія, але іх атрымліваюць без затрымак.

Некаторыя акцёры мараць пра Мінск, аднак трэба разумець, што там не так і проста, а тут іх ведаюць, яны зоркі.

**– Што вам дало дэпутацтва ў мясцовым Савеце дэпутатаў?**

– Дэпутаты – гэта тыя, хто чагосьці дабіўся і з кім можна вырашаць пытанні. Гэта шмат знаёмстваў з людзьмі, якія ведаюць, што трэба рабіць. Сутыкаўся з праблемамі, з якімі прыходзілі людзі. У мікрараёне Фестывальны былі праблемы з дарогамі – чалавек выходзіць з дому ў ботах, выязджае і тады пераабуваецца. Многія пытанні дэпутацтва дапамагло вырашаць хутка. Гэта многае дае кіраўнікам, якія хочуць прайсці добрую школу.

Але пасля шмат часу давялося аддаваць кантынгенту людзей з асацыяльным ладам жыцця. Я лічу, што больш увагі патрэбна аддаваць тым, хто прыносіць карысць. Выклікаюць чалавека раз за разам і пытаюцца, калі той возьмецца за галаву, а без увагі застаецца інжынер, які з двума дзецьмі жыве ў інтэрнаце. Чаму гэты інжынер павінен вырашаць усё сам, а таго просяць кінуць піць пяць раз за разам?

**– Як на калектыве адбіліся жнівеньскія падзеі?**

– Калі чалавек прыходзіць на працу ў разабраным стане, яго трэба настроіць. Бывае, што чалавек не можа настроіцца. У нас якраз ішлі рэпетыцыі прэм'еры «Хайп». Мы шмат размаўлялі, каб супакоіцца і працаваць. Калі стала вядома пра затрыманні **Паўла Святохі** і **Дзяніса Аксёнава**, вырашылі, што акцёраў пасля працы будзем развозіць аўтобусам. Каб я быў упэўнены, што людзі дома, з сем'ямі.

Мне давялося сустракацца з начальнікамі РАУС Маладзечна і Дзяржынска, каб абмеркаваць сітуацыю. Пра тое, што акцёры будуць запісваць відэазварот з пасылам супраць гвалту, я ведаў, абмяркоўваў гэта з мастацкім кіраўніком **Валерыем Анісенкам**. Мы зразумелі адзін аднаго – што ён бярэ на сябе адказнасць, дамовіліся пра тое, як гэта будзе выглядаць.

**– Гэта стала прычынай таго, што аблвыканкам не працягнуў вам кантракт?**

– Я лічу, што працаваў добра. Але мяркуецца, што заўсёды можна лепш. Кіраўніку самае простае – сказаць «Вы да мяне не падыходзілі», калі нешта здарылася. Кіраўнік мусіць усім цікавіцца і быць у курсе таго, што адбываецца. Я заўсёды быў на баку калектыву.

**– Ці вярнуліся б вы, калі б была магчымасць?**

– Не ведаю. Тэатр дарагі для мяне. Але патрабаванні будуць яшчэ вышэйшыя. Калектыў заўсёды чакае прарыву ад кіраўніка. Мы ўсе хочам росту і руху. А цяпер перад намі каламутная вада, з якой спрабуеш нешта вылавіць, а там усё вылаўлена. Будзе яшчэ больш адказна, чым у першы раз.

**– Якім было ваша развітанне з калектывам?**

– Вельмі кранальным. Я доўга да яго рыхтаваўся, думаў, што хачу данесці. Не ведаю, да чаго я так дасканала рыхтаваўся апошні раз. Папрасіў калектыў, каб не разбягаліся.

**– Ці прыйдзеце вы на юбілей тэатра?**

– Вядома, абавязкова. Часцінка мяне засталася ў тэатры.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



# Смаргонская баскетбалістка праз COVID-19 не згуляе ў кваліфікацыі чэмпіянату Еўропы

**12 лістапада нацыянальная зборная Беларусі па баскетболе павінна была згуляць з Польшчай у кваліфікацыі чэмпіянату Еўропы. Смаргонка Юлія Рыцікава разам з сяброўкамі па камандзе прапусціць кваліфікацыйны этап праз масавае захворванне на каранавірусную інфекцыю.**

### Захварэлі баскетбалісткі і трэнеры

Беларуская федэрацыя баскетбола (БФБ) заўсёды інфармуе грамадскасць пра пачатак збору нацыянальнай каманды. Выключэннем не было да гэтай кваліфікацыі.

**Вядома, што галоўны трэнер зборнай Наталля Трафімава сабрала гульцоў у пачатку лістапада, аднак федэрацыя не стала анансаваць гэтую навіну.**

Звышсакрэтнасць спартыўны партал «Трыбуна» тлумачыць тым, што сярод баскетбалістак ёсць тыя, хто адкрыта крытыкаваў беларускія ўлады і сілавікоў з гэтага жніўня. Як даведалася «Трыбуна», **Кацярына Сныціна, Таццяна Ліхтаровіч, Аляксандра Тарасава, Ганна Брыч** і **Арына Масько** ўсё-ткі патрапілі ў пашыраны склад зборнай на матч з полькамі і маглі згуляць у Стамбуле.

**Інфармацыя аб тым, што нацыянальная зборная прапусціць кваліфікацыю, напачатку з'явілася ў спартыўных беларускіх медыя, і толькі праз некалькі дзён аб гэтым паведаміла прэс-служба федэрацыі.**

Прычына пропуску кваліфікацыі – вялікая колькасць станоўчых тэстаў на COVID-19 у камандзе перад вылетам у Турцыю. Практычна ўсе баскетбалісткі, якія знаходзіліся на трэніровачным зборы ў Мінску, захварэлі на каранавірус. Большасць з іх – баскетбалісткі «БК Гарызонт»: **Анастасія Верамеенка, Вольга Зюзькова, Вікторыя Гаспер, Юлія Рыцікава, Яніна Інкіна**. Цікава, што гэты клуб трэніруе галоўны трэнер зборнай Наталля Трафімава.

Асістэнт галоўнага трэнера нацзборнай **Аляксей Пынцікаў** паведаміў «Трыбуне», што сярод захварэлых ёсць і чальцы трэнерскага штаба, аднак іх ён адмовіўся называць.

### Праз каранавірус – асаблівыя ўмовы

Праз каранавірус Міжнародная федэрацыя баскетбола ўвяла асаблівыя ўмовы для каманд-удзельніц кваліфікацыі чэмпіянату Еўропы. Традыцыйна зборныя гулялі 6 матчы на дамашняй пляцоўцы ці выязныя сустрэчы ў сапернікаў.

**Аднак праз пандэмію стварыліся «бурбалкі» – каманды некалькіх кваліфікацыйных груп прыязджаюць у загадзя падрыхтаваную і вольную ад COVID-19 тэрыторыю з баскетбольнай пляцоўкай і гатэлем, рыхтуюцца да матчаў, а кантакты з вонкавым светам мінімізуюцца.**

Беларуская зборная павінна была ехаць у Стамбул, дзе ўжо знаходзяцца каманды іншых груп. Невядома, якія наступствы будзе мець пропуск матча беларусак з полькамі.

Асістэнт галоўнага трэнера Аляксей Пынцікаў паведамляў «Трыбуне», што, магчыма, гэты матч перанясуць на наступнае кваліфікацыйнае акно альбо беларускі атрымаюць тэхнічнае паражэнне. Праблема ў тым, што ў апошнім кваліфікацыйным акне ў беларусак ужо ёсць два матчы – з Вялікабрытаніяй (хатняя гульня) і Польшчай (выязная гульня).

Для таго, каб беларуская зборная згуляла на чэмпіянаце Еўропы, ёй трэба добра правесці кваліфікацыйны этап – завяршыць яго на першым месцы ў сваёй групе ці ўвайсці ў склад найлепшых шасці каманд на другім месцы. Першы матч беларускі ўжо згулялі год таму супраць Вялікабрытаніі, перамаглі з буйной перавагай над сапернікамі – 90:59. Усяго беларускам засталося згуляць тры гульні.




Юлія Рыцікава нарадзілася ў Смаргоні. Пачала прафесійную кар'еру ў 2000 годзе. Гуляла ў расійскай «Надзеі» і «Дынама», польскім «Гожаве». Цяпер выступае за «Гарызонт». У 2016 годзе стала найлепшым гульцом чэмпіянату Беларусі, у 2020-м – найлепшым гульцом Кубка Беларусі. Чэмпіёнка Беларусі ў 2011 і 2016 гадах, чэмпіёнка Польшчы ў 2010 годзе, пераможца Кубка Еўропы-2011/12. Юлія Рыцікава ўжо дзесяць гадоў гуляе ў складзе нацзборнай.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота fiba.com.**

---

## «Ашмяны» прайгралі «Лакаматыву»

«Ашмяны» няўдала правялі 25-ы тур у першай лізе. Ашмянскія футбалісты сустрэліся з гомельскім «Лакаматывам» на хатнім полі. За ўсю гульню «Ашмяны» не стварылі момантаў, завяршылі матч без галоў. «Лакаматыў», наадварот, забіў шэсць галоў. Мячы забівалі: **Андрэй Салавей** (тройчы), **Дзмітрый Свірыдзенка**, **Ілля Шабанаў**, **Павел Кляньё**. Гульня завяршылася з лікам **0:6** на карысць гамяльчан.

«Ашмяны» знаходзяцца на дзявятым месцы ў турнірнай табліцы першай лігі.

## Смаргонцы саступілі «Крумкачам»

25-ы тур у першай лізе і для смаргонцаў завяршыўся паражэннем. «Смаргонь» гуляла на хатнім полі супраць «Крумкачоў». Гулец смаргонскай каманды **Пётр Казанцаў** першым адкрыў лік у сустрэчы. Ужо ў другім тайме іх сапернікі забілі тры мячы. Галамі ў вароты смаргонцаў адзначыліся **Аляксандр Яцкевіч**, **Раман Плехаў**, **Дзмітрый Сібілеў**. Сустрэча скончылася паражэннем «Смаргоні» з лікам 1:3.

Смаргонь знаходзіцца на шостым месцы ў турнірнай табліцы першай лігі.

## Маладзечанцы дамагліся перамогі над «Асіповічамі»

У 4-м туры фінальнага этапу другой лігі маладзечанцы перамаглі ў выязным матчы футбалістаў «Асіповічаў». **Сяргей Галюк**, **Мікіта Мятліцкі** і **Аляксандр Красноў** забілі па мячы ў вароты асіповіцкай каманды і прывезлі дадому доўгачаканую перамогу.

Нагадаем, што «Маладзечна» заставалася без перамог два матчы запар. У фінальнай частцы турніру маладзечанцы займаюць другое месца, захоўваючы шанец выйсці ў першую лігу.

**Настасся УТКІНА.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Псіхічныя працэсы перажывання чалавекам сваіх адносін да навакольнага свету.
3. Ядавітая змяя шэрага колеру з чорнай зігзагападобнай паласой уздоўж спіны.
6. Тып жывога арганізма, адзін з відаў мае сем полаў. Размнажаюцца з прадстаўнікам любога полу. А атрыманыя клеткі абіраюць пол выпадковым чынам, а не ў спадчыну ад бацькоў.
7. Пэўны напрамак дзейнасці, інтарэсаў, спецыялізацыі.
10. Струмень вады або вадкасці, які з сілай выкідваецца ўгору пад высокім ціскам.
12. Агульная назва хлебных злакавых раслін, з зерня якіх вырабляецца мука і крупы.
13. Самая высокая ступень творчай адаронасці, таленавітасці чалавека ў якой-небудзь сферы дзейнасці.
14. Ларыса Геніюш: «Беларусь маю зноў закавалі, толькі путы навокал звіняць. Гіне юнасць на шэрым Урале, але ... – яе не скаваць!»
16. Зборнік геаграфічных, гістарычных і іншых карт, а таксама табліц, малюнкаў, схем.
18. Вёска ў Вілейскім раёне, у складзе Крывасельскага сельсавета. Яе перанеслі, калі распрацоўвалі Вілейскае вадасховішча.
19. Пункт, у якім прадмет, што фатаграфуецца або разглядаецца пры дапамозе аптычнага прыбора, мае найлепшую рэзкасць, выразнасць.
20. Верхняя звужаная частка пасудзіны.
21. Індзейская народнасць Мексікі.
22. Гандляр.
23. Поўная няўдача ў справе.
25. Верхняя створка акна ці дзвярэй.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Адзін з тураў спаборніцтва ў скачках, гонках.
3. Табліца размяшчэння зорак, якая складаецца астролагамі для прадказання лёсу чалавека або выніку якой-небудзь падзеі.
4. Вусная народная творчасць.
5. Асноўнае вытворчае падраздзяленне прамысловага прадпрыемства.
8. Кусок металу, атрыманы ў выніку плаўлення і адлўкі яго ў спецыяльную форму.
9. Прычоска з локанаў.
11. Хімічны элемент, бясколерны газ, які не падтрымлівае гарэння, складае значную частку паветра, з'яўляецца адным з галоўных элементаў жыўлення раслін.
15. Праём у сцяне будыніны для святла і паветра.
17. Рыска, якая абазначае пропуск, адсутнасць звестак пры запаўненні анкеты, дакумента.
19. Паслядоўны паказ падзей, здарэнняў у мастацкім творы.
23. Уздым, натхненне, энтузіязм, выкліканыя высокай ідэяй.
24. Пра таго, хто пацярпеў або загінуў ад няшчасця, стыхійнага бедства, сацыяльнага зла, нядобрых людзей.
26. Перамяшчэнне арганізаванага атрада людзей з пэўнымі мэтамі, заданнем.

## Адказы на крыжаванку з №45

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 4. Пыл. 5. Тыяра. 8. Куст. 9. Кумпяк. 12. Дворнік. 13. Турнір. 15. Кнот. 17. Круг. 20. Пуня. 21. Базар. 23. Драбяза. 24. Савецкай. 28. Цытата.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Прытулак. 2. Цаля. 3. Паўлава. 6. Прадмет. 7. Цішком. 10. Дамкрат. 11. Тройка. 14. Пудра. 15. Каністра. 16. Тэрапія. 18. Тэрмін. 19. Кубак. 22. Дзіда. 25. Цацка. 26. Цясак. 27. Цемра.

## ● ГАРАСКОП НА 13-19 ЛІСТАПАДА



**АВЕН.** Перад вамі ва ўсю вышыню і шырыню паўстануць перспектывы. Прычым менавіта тыя, да якіх вы імкнуліся з даўняга часу. Дзякуючы вашай упартасці, атрымаецца пакласці перспектыву ў кішэню.



**ЦЯЛЕЦ.** Вас чакае выдатны тыдзень, які складана будзе сапсаваць. Хаця некаторыя нібыта толькі гэтага і будуць дамагацца. У адносінах з каханым чалавекам будуць пазітыўныя перамены.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам не будзе хацецца нічога рабіць. Такое адчуванне, што нават з месца зрушыцца будзе няпроста. Важна ў гэты перыяд не спяшацца, усё выконваць размерана.



**РАК.** Захочацца марыць і не вяртацца да звычайных шараговых праблем. Важна пільна сачыць за псіхічным станам, ад яго будзе залежыць і здароўе, і эфектыўнасць у працы, і асабістыя адносіны.



**ЛЕЎ.** Спатрэбіцца адкласці не самыя важныя справы. Разлічыце свой энергетычны запас, каб хапіла на ўсе справы. Важна ўсе рабочыя справы заканчваць як мага хутчэй.



**ДЗЕВА.** Вам спатрэбіцца займацца заданнямі ў адзіноце. Напарнікі не змогуць вам дапамагчы. Важна прадумваць задачы ў дэталях. У фінансавай сферы вас чакаюць навіны.



**ШАЛІ.** У гэты перыяд будзе шмат нечаканасцяў і непаразумення. Давядзецца даказваць прафесіяналізм, магчыма, нават змагацца з канкурэнтамі. Пастарайцеся быць упэўненымі ў сабе.



**СКАРПІЁН.** Калі вы задумаеце нейкія мудрыя планы, упэўніцеся, што іх разумеюць калегі. Каб дасягнуць жаданага, неабходна дакладна трансляваць, што вы хочаце.



**СТРАЛЕЦ.** Вам спатрэбіцца кіраваць многімі працэсамі. Ад вашай настойлівасці будзе залежаць поспех кампаніі. Магчыма, спатрэбіцца вучыць свайму майстэрству менш дасведчаных калег.



**КАЗЯРОГ.** Спрыяльны час для прыемных размоў з блізкімі. Арганізуйце вечар, у які ўсё будзе так, як хацелі б вы – ад складу прысутных да меню і афармлення стала.



**ВАДАЛЕЙ.** Вас чакае перыяд, у якім патрэбна прыслухоўвацца да інтуіцыі і верыць ёй. Пастарайцеся больш часу праводзіць з людзьмі, якія падзяляюць вашы захапленні. Усе спантанныя думкі запісвайце.



**РЫБЫ.** Спрыяльны час, каб навесці парадак у доме і справах. Прычым менавіта арганізацыйная частка будзе патрабаваць асаблівай пільнай увагі. Пастарайцеся запланаваць час на пакупкі.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | 4 | | | | 1 | 7 | |
| 5 | | 8 | | 4 | | | | 9 |
| | | | | 5 | | 6 | | 8 |
| | | 7 | | | 3 | | | |
| 8 | 4 | | 2 | | | | | 3 |
| | 2 | | | 6 | 5 | | 1 | |
| | | | | 2 | | 9 | 5 | 1 |
| 4 | | | 9 | | | | | |
| | | 1 | | 3 | | | | 7 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3Х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY


## Адкрылі новы будынак школы

МЯДЗЕЛ

**9 лістапада адкрылі новы будынак Занарацкай сярэдняй школы.**

Удзел у цырымоніі прынялі старшыні Мінаблвыканкама **Аляксандр Турчын,** райвыканкама **Анатоль Вайнілка,** начальнік Галоўнага ўпраўлення па адукацыі Мінаблвыканкама **Мікалай Башко.** Гасцей сустрэлі вучні і педкалектыў.

Затым усе разам прайшлі да новага будынка, дзе адзінаццацікласнік **Максім Зімніцкі,** трэцякласніца **Валянціна Мароз** і Аляксандр Турчын урачыста перарэзалі стужку.



Фота narachanka.by.

Ля новага будынка школы.

Падарункам школе стаў сертыфікат на набыццё сучаснай цяпліцы, які ўручыў дырэктару школы старшыня Мінаблвыканкама. Потым адбылася экскурсія па новым будынку.

**Паводле narachanka.by.**

## Чытайце праз тыдзень:

- 28 мая 1863 года ў баі з царскімі войскамі пад Уладыкамі на Вілейшчыне загінула каля двухсот паўстанцаў і іх кіраўнік Вінцэнт Козел-Паклеўскі. А сёлета навукоўцы з Нацыянальнай акадэміі навук папрацавалі каля Уладык і, верагодна, знайшлі канкрэтнае месца, дзе адбылася тая бойка.

## 14 лістапада, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 3-4 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -7,3°С у 1983 годзе
Максімальная тэмпература +10,9°С у 2019 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 16,1 мм у 2018 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якія б пытанні вы задалі ўладам горада?



**Галіна:**
– Я б не хацела задаваць пытання ўладам горада, усё нармальна ў нас. Трэба жыць па сродках, і ўсё будзе добра. Радавацца жыццю і больш усміхацца. Не сварыцеся.



**Вячаслаў:**
– Ніякага пытання я задаваць ім не хачу. Яны нічога не робяць і не зробяць ніколі.



**Юрый:**
– Я жыву на Лясных, там вялікая праблема з асфальтаваннем дарог, тратуары ў дрэнным стане.



**Галіна:**
– Трэба, каб яны зрабілі асвятленне дваровых тэрыторый, бо там цёмна вечарам, немагчыма прайсці.



**Тацціяна:**
– Нават не ведаю, мне ўсё падабаецца ў горадзе. Яны і так працуюць у сілу сваіх магчымасцяў. Дзякуй ім за працу.



**Ліля:**
– Не мае сэнсу ім задаваць нейкае пытанне. Гэта ўсё бессэнсоўна, яны нічога не робяць і не зробяць.



**Уладзімір:**
– Ніякага пытання я задаваць ім не хачу. Здаецца, у горадзе ўсё добра.

**Падрыхтаваў Аляксей КАСТОЎСКІ.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№46 (1333) 13.11.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1911. Падпісана ў друк у 9.00 12.11.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.